БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

№ 28 (13560)

6 — 12 ліпеня 1992 года

Кошт 3 рублі.



# З АДРАДЖЭННЕМ ПАЧАКАЕМ?



**Газета "Знамя юности":**

Народ — гэта "граждане в национальных костюмах, голосящие на фоне фанерных декораций..."

**Міністр інфармацыі А.Бутэвіч:**

Давайце хаця б — калі на большае не хапае ні сілы, ні розуму — паважаць законы гэтай краіны, традыцыі народа, на зямлі якога мы жывём...

**Культурна-асветніцкі клуб "Спадчына":**

Прадукцыя тэлекампаніі "Астанкіна" стварае глебу для нацыянальнага нігілізму, не адпавядае традыцыям і культурным уяўленням беларускага народа...

**БНФ "Адраджэньне":**

Перыядычныя беларускамоўныя выданні, тэле- і радыёпраграмы не займаюць належнага месца ў інфармацыйнай прасторы нашай краіны...

**Кіяскёры горада Мінска:**

Беларускія выданні мы не чытаем, бо не валодаем беларускай мовай...

Чытайце 6-ю ды 7-ю старонкі.

## “НІВОДНАГА ПЫТАННЯ СА ШПІЛЬКАЙ”

не было зададзена беларускаму прэм’еру пад час “прамой лініі”, праведзенай у рэдакцыі ўрадавай газеты “Советская Белоруссия”. Такім было ўласнае сведчанне спадара Кебіча і прагучала яно якраз пасля тэлефонных перамоваў Вячаслава Францавіча на сустрэчы з рэдактарамі рэспубліканскіх газет і часопісаў. Найбольш актыўна тэлефанавалі, як выявілася, пенсіянеры, асабліва былыя ваеннаслужачыя з нагоды малой пенсіі. За імі рушылі прадстаўнікі рускамоўнага насельніцтва рэспублікі, абураныя “асобамі”, якія дэстабілізуюць, на іх думку, становішча ў рэспубліцы і да якіх яны адносяць, да прыкладу, Зянона Пазьняка. Настойліва паўтараліся званкі ад ахвяраў Чарнобыля з так і нявырашанымі жыллёва-бытавымі праблемамі. І ўрэшце на апошнім месцы Вячаслаў Францавіч назваў заклапочаных сваімі непазбыўнымі цяжкасцямі маці-адзіночак.

“Мы клапаціліся і будзем клапаціцца пра друк”, — запэўніў шаноўны госць рэдактарскую грамаду. Апошняя, дарэчы, даўно ўжо страціла вертыкальную паставу і ходзіць з сагнутай спінай і працягнутай рукой па яснавяльможных кабінетах. Урэшце нядаўняе павышэнне кошту паперы, экспедзіравання і г.д., і як вынік — падпісной цаны, насоўваецца страшэнным дзевятым валам, здольным вынішчыць літаральна ўсе выданні на сваім шляху. Асабліва гэта тычыцца беларускамоўнай перыёдыкі, якая і без таго занядбаная шматгадовай дэнацыяналізаванай палітыкай. Зрэшты Вячаслаў Францавіч кемліва ўзгадаў: “Калі я паведаміў паўсюль, што ў рэспубліцы адшукалі радовішча золата, усе адразу спыталіся — дзе яно?”. Гэтаксама спадар Кебіч сказаў, што ён ведае, дзе хаваецца паратунак для рэспубліканскай прэсы, але адкрые гэты сакрэт не прылюдна, а кожнаму рэдактару паасобку. Праўда, адна з панацэй усё ж была названая — крэдыты, выдаваемыя не Нацыянальным банкам рэспублікі, а камерцыйным банкам “Беларусь”, які пазычае грошы пад нізкія працэнты. Але туды, відаць, трэба раіць звяртацца падпісчыкам, а не рэдактарам, бо высокі кошт падпіскі хутчэй закране інтарэсы менавіта першых.

**А.АГІБАЛАВА.**

*Правінцыяльная хроніка*

## “Каменданцкая гадзіна” для ... дзяцей

На сесіі райсавета Столінскага раёна прынята рашэнне аб увядзенні ў раёне “каменданцкай гадзіны” для дзяцей.

З просьбай пракаменціраваць гэты факт наш карэспандэнт звярнуўся да Паўла Фёдаравіча Пашкевіча, намесніка старшыні Столінскага райсавета, які паведаміў, што такія меры ўводзіліся і раней (для таго, каб прадухіліць злачыннасць). Сесія ж райсавета толькі аднавіла іх. Вырашана, што знаходжанне непаўналетніх на вуліцы будзе забаронена пасля 23.00. Праўда, калі гэтая “каменданцкая гадзіна” заканчваецца, невядома: у гэтым напрамку сесія не вырашыла нічога.

Але дзеці ёсць дзеці. Аматары выйсці ўначы на шпацыр засталіся. З іх бацькамі праваахоўныя органы праводзяць выхаваўчую работу. А калі дзіця вельмі “буйнае” і яго начная дзейнасць не можа абысціся без парушэнняў парадку, то тады, як вырашана на сесіі, міліцыя будзе “біць па кішэнях бацькоў”. Ну, а тыя, у сваю чаргу, па мяккіх месцах сваіх непаседлівых нашчадкаў.

## ГІСТОРЫЯ – ГЭТА МЫ

Музею трэцяй Мар’інагорскай сярэдняй школы хутка трыццаць тры.

Ужо дзевяць год існуе тут добрая традыцыя — на выпускным вечары юнакам і дзяўчатам уручаюцца памятныя прызы за актыўную пошукавую работу і паспяховую здачу экзаменаў.

Сёлета памятныя прызы таксама атрымалі 11 выпускнікоў. Была адзначана не толькі добрая вучоба, але і лепшы адказ на экзамене па гісторыі, лепшае сачыненне, лепшая ўласная лекцыя.

Няблага б і іншым школам павучыцца ў наш багаты на рэвалюцыі час так захоўваць традыцыі.

**В.Арлоў.**

## Дэмантаж “правадыроў” адкладваецца

У апошні час усё часцей становяцца вядомымі факты разбурэння і дэмантажу помнікаў, бюстаў і да т.п. нашых былых “правадыроў”. А як абстаяць справы з гэтым у Мінску?

Адказвае Анатоль Іосіфавіч Іўчын, намеснік старшыні прэзідыума гарадскога Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры: “Наша таварыства займаецца, як вынікае з назвы, не разбурэннем, а аховай такіх і да іх падобных помнікаў. Але калі ўрадам будзе прынята пастанова аб дэмантажы “правадыроў”, то мы нічога супраць мець не будзем. Адно магу сказаць: гістарычную экспертызу гэтай справы наша таварыства яшчэ правядзе. Але пакуль што мы нічога па гэтаму пытанню не чулі”.

Як паведамілі ва ўпраўленні культуры пры Савеце Міністраў, згодна з пастановай Саўміна, усе помнікі (у тым ліку і тыя, пра якія ідзе гаворка) ахоўваюцца дзяржавай. І дэманціраваць іх можна будзе толькі тады, калі ўсё той жа Саўмін прыме такую пастанову.

Так што, хоць ісціна аб неўміручасці партыі ўжо загінула, тыя, хто навязаў нам яе, жывуць (і не толькі ў нашых галовах, але і на вуліцах)...

*Стоп-факт*

## “Шыла” – на “мыла”?

Пасля ўвядзення ў Беларусі разліковых білетаў перад многімі людзьмі паўстала праблема іх абмену на расійскія рублі (напрыклад, пры выездзе жыхароў Беларусі ў Расію).

У Нацыянальным банку РБ паведамілі, што з 1 ліпеня ўсе банкі на тэрыторыі Беларусі выконваюць аперацыі па абмену разліковых білетаў на рублі. Абмен адбываецца ў суадносінах адзін да дзесяці (інакш кажучы, за аднаго “зайца” вы атрымаеце дзесяць “драўляных” з утрыманнем камісійнага збору ў памеры да аднаго працэнта. Абмен сумы, якая перавышае 5 тысяч рублёў, робіцца камерцыйнымі банкамі па ўзгадненню з галоўнымі ўпраўленнямі Нацыянальнага банка.

Канешне, добра, што нарэшце можна без перашкод памяняць беларускія грошы на рублі. Але за што плаціць камісійны збор? І чаму гэта павінен рабіць звычайны спажывец, а не ўрад, які прыдумаў увесь гэты “звярынец”?

## “Зайцы” растуць?

На Украіне ўведзены ў абарот шматразовыя купоны вартасцю 200, 500, 1000 рублёў. У нас на Беларусі, як вядома, сітуацыя з грашыма больш заблытаная: паралельна з беларускімі грашыма ходзяць усім знаёмыя савецкія рублі. Як паведамілі ва Упраўленні арганізацыі грашовага абароту рэспублікі, вядзецца распрацоўка разліковых білетаў Нацыянальнага банка Беларусі вартасцю 200 і 500 рублёў. Што датычыць пытання аб тым, як доўга ў нас будзе грашовае “дво : ладдзе”, то нам адказалі, што гэта, напэўна, будзе залежаць ад таго, як пакажуць сябе іншыя дзяржавы “рублёвай зоны”. Пакуль жа няма яшчэ поўнай замены “драўляным”.

## Уся ўлада – не ўраду...

Напрыканцы чэрвеня ў Празе адбыўся Рэгіянальны семінар няўрадавых арганізацый Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. У семінары бралі ўдзел прадстаўнікі 30 няўрадавых арганізацый з Чэхаславакіі, Венгрыі і Польшчы. Асноўныя мэты семінара – далейшая дэмакратызацыя грамадства, выхаванне эканамічнага мыслення і пашырэння супрацоўніцтва паміж няўрадавымі арганізацыямі розных краін. Беларусь на семінары прадстаўляў дабрачынны фонд “Дзецям Чарнобыля”. Удзельнікамі семінара было прынята рашэнне аб актыўным супрацоўніцтве з гэтым фондам з мэтаю пашырэння дапамогі ахвярам чарнобыльскай катастрофы.

**Зм.ЛУКАШУК.**

## Ці ёсць у вас план?

Хрысціянска-дэмакратычны Саюз Беларусі прапануе свой план пабудовы дэмакратыі ў новай “Беларускай народнай рэспубліцы”. З гэтай нагоды ён выступіў з заявай, якая складаецца з 14 пунктаў. Вось некаторыя з іх: свабодны ўезд і выезд без усялякіх абмежаванняў, адкрытыя граніцы, роўныя правы чалавека, пераход да палітычнага плюралізму, роспуск КДБ, МУС, пракуратуры, судоў, прававая і судовая рэформы, правядзенне перавыбараў на аснове шматпартыйнасці, адмаўленне ад усеагульнай воінскай павіннасці і перавод арміі на кадравую, наёмную сістэму.

## “А як маеш грошы, дык і сам харошы...”

Для абітурыентаў настае нялёгкая пара — уступныя экзамены. Любая вучэбная ўстанова раскрые для вас свае дзверы, калі ў вас добрыя веды, калі вы ўпэўнены ў сваіх сілах і... калі маеце тугі кашалёк.

Менавіта такім чынам можна стаць студэнтам, напрыклад, у Гродзенскім медінстытуце. З просьбай пракаменціраваць гэты факт наш карэспандэнт звярнуўся да Генрыха Іванавіча Забароўскага, сакратара прыёмнай камісіі інстытута. Ён паведаміў, што, згодна з пастановай Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь, набор у гэту ўстанову на 1992/93 навучальны год скарочаны ў два разы, з 600 да 300 чалавек. А для свабоднага конкурсу і ўвогуле застаецца толькі палова, таму што каля 150 месцаў адведзена для абітурыентаў з “забруджаных” тэрыторый. Абітурыенты, якія не прайшлі па конкурсу, змогуць вучыцца, калі заплацяць... 95 тысяч у год. Лічба вялікая нават пры сённяшніх цэнах, але і яна не страхуе студэнта ад выключэння, калі той не справіцца з праграмай.

**Франц ЛЯВІЦКІ.**

## “Сюрпрызы” гандлю

Гандаль наш заўсёды славіўся сваімі непрадказальнымі “навінкамі” ў сферы абслугоўвання. Чарговы “пачын” вынайшлі ў камерцыйным цэнтры “Кірмаш” на праспекце “Праўды” ў Мінску. Цяпер тутэйшыя наведвальнікі, якія пажадаюць прымераць абноўку, вымушаны ўносіць залог – суму кошту пакупкі. Працаўнікоў прылаўка, канешне, у нечым можна зразумець: у апошні час рэзка павялічылася колькасць крадзяжоў з крам. Ды толькі ці паправяць яны свае справы такім чынам: “навінка”, пэўна ж, не спадабаецца тым нешматлікім пакупнікам, якія яшчэ захавалі жаданне нешта набываць у дзяржаўных магазінах.

**П.СКАРАМУШ.**

Вядучы інфармацыйнай паласы Франц ЛЯВІЦКІ. Тэл. 32-13-04.

*Нацыянальны архіў*

## НІКОЛІ НЕ ПОЗНА

2-га ліпеня ў тэатры імя Я.Купалы адбылася вечарына, прысвечаная 110-годдзю з дня нараджэння песняра беларускага народа.

Вечар адкрыў Ніл Гілевіч, які ў сваёй прамове закрануў набалелыя пытанні заняпаду матчынай мовы, нацыянальнай культуры. Ініцыятар вечарыны Яўген Вайтовіч, міністр культуры Беларусі, выступіў з яшчэ адной прапановай: выдзеліць урадавыя сродкі для таго, каб надрукаваць мільённымі тыражамі кнігі Купалы і бясплатна раздаць кожнаму беларусу.

Напрыканцы вечарыны былі паказаны славутыя “Тутэйшыя”, п’еса, якая ў свой час апынулася за рамкамі гісторыі нацыянальнай культуры і была фактычна забаронена.

А 4-га ліпеня свята працягвалася ў Вязынцы. Мноства людзей наведала мястэчка, дзе нарадзіўся паэт.

Тэму нацыянальнай годнасці беларусаў узняў у сваім слове паэт Сяргей Законнікаў: калі мы страцім тое, што набылі на працягу Адраджэння, адзначыў ён, тады мы наогул страчаная нацыя.

У свяце таксама бралі ўдзел В.Зуёнак, Г.Каржанеўская, Ю.Свірка, Л.Дранько-Майсюк, а таксама сябры маладзёжнага літаратурнага аб’яднання “Праменьчык”.

І няхай нехта сёлета ўпершыню пачуў вершы Купалы: “людзьмі звацца” ж ніколі не позна.

**Дзіяна Лаўрэнчык**

## ЧАСОПІС ДЛЯ БЕЛАРУСАЎ

Нядаўна згодна з рашэннем урада Беларусі быў створаны часопіс “Беларуская мінуўшчына”. Яго заснавальнікі — Галоўны архіў РБ, Беларускі філіял творчага аб’яднання Міжнароднага фонду міласэрнасці і здароўя і Беларускі фонд славянскай пісьменнасці і славянскіх культур. Паводле слоў галоўнага рэдактара часопіса, доктара гістарычных навук, Мікалая Васільевіча Кузняцова, часопіс, які мяркуецца выдаваць раз у квартал, будзе мець гісторыка-архіўны накірунак. На яго старонках будуць асвятляцца пытанні гісторыі ад старажытных і да сённяшніх дзён. Будуць закрануты і тэмы міласэрнасці, рэлігійныя тэмы. Асноўнымі аўтарамі часопіса стануць краязнаўцы, гісторыкі, работнікі архіваў, археолагі, выкладчыкі гісторыі. У прыватнасці, увазе чытачоў будуць прадстаўлены работы такіх вядомых у рэспубліцы гісторыкаў, як В.А. Чамярыцкі, М.І. Ермаловіч, М.Ф. Піліпенка і інш. На старонках “Беларускай мінуўшчыны” будуць друкавацца вытрымкі з архіваў, летапісаў і іншых першакрыніц. Да канца гэтага года плануецца выхад у свет двух першых нумароў часопіса аб’ёмам 8-9 аркушаў. Кошт, праўда, крыху “кусаецца” — 15 рублёў за нумар. Як зазначыў М.В. Кузняцоў, такая цана была вызначана, зыходзячы з таго, што выданне аднаго нумара часопіса тыражом 10-15 тыс. каштуе 140 тыс. рублёў. Трэба дадаць пры гэтым, што ад дзяржавы часопіс не атрымлівае ні капейкі, таму пачынаць у такіх умовах, канешне, вельмі цяжка. Дапамагае ж хіба толькі тое, што часопіс атрымаў яшчэ правы на выданне гістарычнай і мастацкай літаратуры. Гэта, безумоўна, павінна дапамагчы ўмацаваць эканамічны стан новага выдання.

**Сяргей Вішнеўскі.**

## НОВАЯ ЦАРКВА

У Мінску пачала богаслужэнні новая Хрысціянская царква духу святога.

Нягледзячы на тое, што царква пазбаўлена памяшкання і служэнні праводзяцца ў “паўпадпольных” умовах, у яе з’явіліся ўжо першыя прыхільнікі.

# КУР’ЕР ТЫДНЯ

*Міхаіл Максімавіч ГЛЕБАЎ,*
*старшыня Беларускага таварыства аўтамотааматараў:*

– Наша таварыства было створана яшчэ ў 1976 годзе. Асноўная мэта яго – дысцыплінаваць рух на дарогах, рыхтаваць вадзіцеляў. У падпарадкаванні таварыства 7 аўташкол у абласных цэнтрах і больш за 40 філіялаў гэтых школ, матэрыяльнае забеспячэнне якіх, на жаль, усё больш пагаршаецца. Раней мы набывалі па 35-40 аўтамашын у год. Цяпер жа, калі дзяржаўная цана легкавога аўтамабіля вырасла да 300 тысяч і больш, добра, калі здолеем набыць 10 аўтамабіляў. Таварыства, як і ўсе арганізацыі, абкладзена вар’яцкімі падаткамі, вялікая плата за арэнду і нават нашы 5 мільёнаў прыбытку за 5 месяцаў гэтага года нас не выратуюць. Датацый мы не атрымліваем і платных стаянак і не можам выплачваць сваім работнікам, якія працуюць у райцэнтрах, нават мінімальны заробак. Выратоўвае хіба толькі тое, што ў нас працуюць у асноўным пенсіянеры, былыя вайскоўцы.

Што датычыць колькасці членаў таварыства, то гэтая лічба – 160 тысяч. Ім у першую чаргу прадастаўляецца месца на платных стаянках, аказваецца дапамога на пунктах тэхнічнага абслугоўвання і рамонту. Таварыства займаецца распаўсюджваннем вядомых “лімітак” на бензін па г.Мінску, а таксама прафілактыкай дарожна-транспартнымі здарэннямі. Дарэчы, з 8-мі тысяч здарэнняў на дарогах у мінулым годзе толькі 7 на сумленні членаў таварыства.

*Барыс Зіноўевіч КАПЫСКІ,*
*галоўны спецыяліст упраўлення вышэйшай школы пры Міністэрстве адукацыі РБ:*

– На сённяшні дзень, калі з Дзяржбюджэта на адукацыю ў рэспубліцы выдзяляецца толькі 10 працэнтаў нацыянальнага прыбытку, ВНУ вымушаны шукаць нейкія дадатковыя сродкі да існавання, бо падрыхтоўка аднаго толькі спецыяліста з вышэйшай адукацыяй каштуе ад 15 да 30 тысяч рублёў у год. Таму навучанне на завочных аддзяленнях ВНУ, асабліва ў галіне прамысловасці, будзе праводзіцца на аснове дамоўленасцей з прадпрыемствамі. Падобная сітуацыя склалася і з вячэрнімі аддзяленнямі, прыём на якія будзе арыентавацца на неабходную колькасць спецыялістаў у той ці іншай галіне. Магу сказаць толькі, што павялічыцца набор на спецыяльнасць “беларуская мова і літаратура”. Што датычыць пераходу навучання ў ВНУ на беларускую мову, то гэты працэс пачаўся ўжо. Як вядома, ва ўсіх без выключэння ВНУ ўведзены абавязковы экзамен па беларускай мове і літаратуры, у педінстытутах створаны беларускія патокі настаўніцкіх кадраў.

Але з 34 вышэйшых навучальных устаноў, што дзейнічаюць у рэспубліцы, толькі 19 падпарадкоўваюцца нам, таму ў такіх інстытутах, як медыцынскія, Гомелькі кааператыўны, да выкладання беларускай мовы ставяцца па-свойму. Гэтыя ВНУ ў свой час падпарадкоўваліся Маскве, адпаведна і значная частка выкладчыкаў прыехала сюды працаваць з Расіі.

Падобна на тое, што спіс ВНУ на Беларусі хутка павялічыцца. Зараз у нас па рэгістрацыі разглядаюцца дзве заяўкі: ад Беларускага інстытута правазнаўства пры Саюзе юрыстаў і ад Інстытута кіравання пры Саюзе прадпрымальнікаў “Форум”. Пакуль жа ёсць толькі адна зарэгістраваная намі не дзяржаўная ВНУ – гэта інстытут сучасных ведаў, на студэнтаў якога распаўсюджваюцца ўсе льготы, а інстытут, у сваю чаргу, адказвае за якасць падрыхтоўкі спецыялістаў.

*Максім ТАНК,*
*паэт:*

– Зараз, калі ўсё мяняецца, усё ламаецца, да ўлады рвуцца людзі, якім, акрамя гэтай улады, нічога больш не патрэбна. Я ўсіх дзеячаў, што зараз падымаюць шчыты, добра ведаю. Кожны з іх на свой капыл крамсае, рэжа, ірве гісторыю. Замоўчваецца тое, што нявыгадна. І нібы папугай на шарманцы, кожны цягне на свет тое, што патрэбна яму. Гісторыя стала нейкай анучай, аб якую выціраюць ногі, пакідаюць на ёй сваю гразь, каб далей ісці “чысценькімі”.

Нельга, канешне, не згадзіцца з тым, што гісторыя яшчэ будзе пераглядацца, пераацэньвацца. Але ж не да поўнага самапрыніжэння.

Часцей і часцей бачу, што ў людзей застаецца ўсё менш святога, культурнага. Такія выданні, як “Полымя”, “Маладосць”, “ЛІМ”, – пад пагрозай закрыцця. Маўляў, няма паперы. А, між тым, у пераходах, у камерцыйных кіёсках паліцы забіты парнаграфіяй. Адным словам, у нашай гісторыі такой засухі на беларускую літаратуру яшчэ ніколі не было. Сцяг мы свой адваявалі, “Пагоню” – таксама. А па чым наша “Пагоня” будзе “скакаць” – невядома.

# САЧЫНЕННЕ НА ВОЛЬНУЮ ТЭМУ

Усё пачалося з таго, што мне не паверылася... Не паверылася ў газетнае паведамленне. Вялікая бяда, скажаце: калі верыць спрэс усяму, пра што пішацца ў газетах, дык нядоўга й розум страціць. Тут я змушана заўважыць: надзвычай паважліва стаўлюся да таго, што мы называем дастаткова агульна — "сродкі масавай інфармацыі" і вельмі асцярожліва, нават баязліва, да ўсяго, звязанага з вядомым працягам першых трох слоў — "...агітацыі і прапаганды". Дык вось, усё пачалося са звычайнай, нават крышачку "прахадной" нататкі пад гучнай назвай "Рунь Адраджэння" (назва, дарэчы, мне якраз спадабалася), змешчанай у адным з рэспубліканскіх выданняў. Такіх нататачак зараз — хоць гаць гаці — плойма. Зразумела, пра адраджэнне, пра родную мову. Толькі бракуе ім чагосьці — ці то ўдумлівасці, ці то абачлівасці, ці папросту шчырасці. А мо настаў час падводзіць нейкія вынікі дэкляраванага Адраджэння, адкінуць лозунгавасць і, закасаўшы рукавы, узяцца за падзвіжніцкую штодзённую працу. Апошняе, канешне ж, намнога цяжэй, чымся гуканне нацыянальнай свядомасці на мітынгах, упіканне народа ў палітычнай нясталасці, непадрыхтаванасці да дэмакратыі. Карацей, прыгаданая нататка радасна паведамляла пра ўступны экзамен у Беларускі гуманітарны ліцэй. Учарашнія сямікласнікі пісалі сачыненне на беларускай мове. Падлеткам, што прагнулі залічэння ў БГЛ, ліцэй прапаноўваў шэсць тэм: "Беларусь — незалежная краіна", "Ці будзе жыць беларуская мова?", "Мая мара", "Янка Купала нарадзіўся на Купалле", "За што я люблю гэтую кнігу", "Ці ёсць у горада душа?". Ах, сачыненне на вольную тэму! Колькі школьных пакаленняў выпускнікоў, абітурыентаў разнастайных навучальных устаноў адчулі на сабе ягоную "вольнасць". Пад апошняй звычайна мелася на ўвазе нештачка па-за межамі абавязковых праграмных тэмаў. Часцей за ўсё прапаноўвалася паразважаць пра чарговае "-годдзе" перамогі над нямецка-фашысцкімі захопнікамі (гэта яшчэ па-боску) або даць волю сваім думкам і пачуццям, ускалыхнутым тэмамі "Ты на подзвіг завеш, камсамольскі білет!", "Партыя — наш рулявы". Не абыходзілася, само сабой, і народаў" і іншых асоб, у залежнасці ад часу, які панаваў за вокнамі школкі ці тэхнікума, ВНУ...

Такім чынам прывядзём вытрымку з узгаданай нататкі. "Вось з аўдыторыі выходзіць выкладчыца і з радасцю паведамляе бацькам: "Ведаеце, многія дзеці ўзяліся пісаць сачыненні на тэмы "Ці будзе жыць беларуская мова?" і "Беларусь — незалежная дзяржава", — гэта так прыемна... "І тут я не паверыла. Упаўне магчыма, што выкладчыца "з радасцю" паведаміла бацькам пра абранне большасцю дзетак (у прынцыпе яны яшчэ 13—14-гадовыя бэйбусы) тэм пра незалежнасць Беларусі й родную мову. Настаўніцы павінна быць прыемна, калі яна працуе ў нацыянальнай навучальнай установе, бачыць, як прабіваюцца пакуль што кволыя парасткі нацыянальнай свядомасці, адчуваць — намаганні яе нямарныя. Да таго ж Беларускі гуманітарны ліцэй — адзіная ў рэспубліцы навучальная ўстанова, якая створана менавіта дзеля нацыянальнага адраджэння. Самім Богам наканавана супрацоўнікам падобных установаў зведваць радасць, калі большасць вучняў цікавіцца выратаваннем роднай мовы і ўсталяваннем дзяржаўнасці роднай краіны. Тут усё лагічна, абумоўлена і шчыра. Я не паверыла ў іншае — у гэтую палохаючую "большасць". Ад яе прыкра патыхнула яе вялікасцю Кан'юнктурай. Канешне, паступаць у Беларускі гуманітарны ліцэй і сумнявацца ў неабходнасці суверэнітэту нашай рэспублікі, прадракаць беларускай мове хуткую, непазбежную гібель — згадзіцеся, напісаць такое сачыненне, значыць, уласнаручна выкрасліць сябе са спіса прэтэндэнтаў на залічэнне. Дый увогуле, навошта ісці ў такую ўстанову, калі не любіш ні мовы, ні Бацькаўшчыны. Аднак перад намі — дзеці. Наўрад ці варта ад іх чакаць сталасці, грамадзянскай адказнасці, якіх часцяком бракуе самім дарослым. Ды й скуль ім ведаць, што такое "незалежная краіна", калі выраслі і вучыліся яны якраз у "залежнай". Тое, што ўзялася пісаць першыя дзве тэмы большасць, нядзіўна: вопыт функцыяніравання савецкай школы даў ім веданне — менавіта такія, з "грамадска-палітычнай" скіраванасцю тэмы з'яўляюцца найбольш выйгрышнымі. Даруюцца арфаграфічныя памылкі, сінтаксічныя недахопы... Апярэджу крыху аповед і заўважу, што адна выкладчыца мне так і сказала: "Мы пашкадавалі, што ўвогуле далі дзецям гэтыя дзве тэмы, бо справакавалі іх на кан'юнктуршчыну, на газетную публіцыстыку". Тут, пэўне, варта вытлумачыць — гуманітарнаму ліцэю запатрабоўваліся не проста сачыненні на зададзеную тэму, няхай сабе нават вольную, яму неабходныя былі допісы, у якіх праяўлялася арыгінальнасць мыслення юнай асобы, раскрываўся ўнутраны свет чалавека, ягоныя мастацкія здольнасці. Дык вось той, хто, відаць, не надта спадзяваўся на ўласныя сілы, ухапіўся чамусьці за "незалежнасць" і "мову". Калі я прачытала большасць гэтых "справакаваных" сачыненняў, мае самыя горшыя прадчуванні і першапачатковы недавер да ўра-патрыятычнай "большасці" пацвердзіліся. Дзеткі браліся за тэмы, на якія нават не ведалі, што пісаць, і ўсё ж пісалі. Адчувалі сацыяльны заказ? Дарэчы, пісалі дрэнна, атрымлівалі "двойкі" і не траплялі ў БГЛ, але верылі, што "выйгрышная" тэма іх застрахуе.

Але побач з бездапаможнымі, выпакутаванымі радкамі былі й дастаткова моцныя, сталыя развагі. У многім яны сімптаматычныя, і адно ў адно "малпуюць" свет дарослых. Пераканайцеся самі, спадары дарослыя — дэпутаты й палітыкі, лідэры БНФ, КПБ, БСП, БХДЗ, НДПБ...

*"Ужо 70 год камуністы вядуць нас да светлай будучыні, але толькі гэтыя два гады пачынаем разумець, да чаго нас прывялі саманадзейныя людзі. Зараз мы разумеем прырук саміх тапельцаў".*

*"Набіраўшыя ўсё большую моц маскалі ўзялі беларусаў пад сваё крыло. Кастрычніцкая рэвалюцыя не дала Беларусі поўнай незалежнасці. Уладу над усімі рэспублікамі былога Савецкага Саюза захапіў вялікі мафіёзны камуністычны спрут, цэнтр якога знаходзіцца ў Маскве. Усе гады кіравання гэтага спрута беларусы былі ціхімі і баязлівымі рабамі. Зараз, праўда, наша становішча крыху палепшала. Пасля распаду Саюза мы сталі свабоднай дзяржавай. Беларусь зноў аднавіла сваю незалежнасць. Але, я думаю, наша становішча ад гэтага амаль не палепшыцца. Расце колькасць злачынстваў, вымірае беларуская нацыя, а краінай, на мой погляд, правіць той жа мафіёзны спрут, толькі ў другім абліччы. Я думаю, што нам трэба яшчэ шмат часу, каб стаць зноў моцнай і поўнасцю незалежнай дзяржавай, каб мы маглі смела, без сораму за сваю радзіму глядзець іншым людзям у вочы. Нам патрэбны правадыр (! — ад рэд.), які вывеў бы нас на светлы шлях".*

*"Я вельмі люблю і даражу сваёй Радзімай, таму што для мяне яна родная і самая найлепшая. Тут я нарадзілася, вырасла, тут жылі мае продкі. Але многае мне не падабаецца. Па-першае, тое, што мы практычна не маем сваёй мовы і культуры, заўсёды жывём пад пятой рускай дзяржавы. Калі гэта будзе працягвацца далей, нам ніхто не дазволіць жыць пад бел-чырвона-белым сцягам, які азначае незалежнасць і чысціню нашай краіны. Чалавек, які не мае сваёй мовы, нацыі, — абяздолены і маральна забіты. Таму нам трэба адкрываць нацыянальныя школы і працягваць перыяд адраджэння. Калі я была ў Брэсцкай крэпасці, мной авалодала адчуванне гонару за подзвігі майго народа ў час Вялікай Айчыннай вайны. Ізноў нашы людзі сталі ахвярамі. Нідзе столькі людзей не загінула, колькі ў Беларусі. Гэта было і ёсць, але, каб гэта працягвалася, дапусціць нельга. Для гэтага трэба быць незалежнай краінай".*

Процьма наіўных выказванняў кшталту: "У мяне зрабілася шмат думак наконт незалежнасці нашай краіны". Сапраўды, "зрабілася": далейшы тэкст сачынення пацвярджае гэта. Знайшлося і такое. На пытанне "Ці будзе жыць беларуская мова?" дзяўчо адказвае: "Да, наша мова будзе жыць! Да, і як жа яна можа загінуць!". Часам на гэтае ж пытанне гучыць вельмі сярдзіты адказ: "Пэўня ж будзе. Ніякі народ, ніякая краіна не будзе існаваць без сваёй мовы. Я лічу, што такіх пытанняў узнікаць не павінна. Народ і мова заўсёды разам".

Трапіла мне ў рукі і сапраўдная знаходка-залацінка. Выдатнае, шчырае сачыненне Надзейкі Т.

## ЦІ БУДЗЕ ЖЫЦЬ БЕЛАРУСКАЯ МОВА?

*"Я нарадзілася тут, у Менску. Яшчэ з маленства, у чатыры гады, ад сваіх бацькоў пачула мову, беларускую мову. Мой бацька чытаў мне беларускія народныя казкі, асабліва мне запамяталася казка У.Караткевіча "Чортаў скарб", нават песенька мядзведзя хораша заклалася ў памяці: "Тупу, тупу, тупу, нясе мішка ступу...". З-за сваёй хваробы я не хадзіла доўгі час у дзіцячы сад. І таму чула мову, размаўляла на ёй, але потым у пяць год з паловаю мяне аддалі ў дзіцячы сад. А там панавала расейская мова, выхавацелі размаўлялі па-расейску і я, канешне, там таксама ўзяла расейскі ўплыў. З успамінаў майго бацькі я даведалася, што калі я прыходзіла са школы ў першым класе, то размаўляла па-расейску, і ўсяляк не хацела па-беларуску, нават казала: "Навошта вучыць мову, навошта на ёй наогул размаўляць, яна ж цяжкая, ды — непрыгожая".*

*Час ішоў. Я крыху падрасла, стала разам з бацькамі хадзіць на вечарыны ў Дом літаратара, на канцэрты, у тэатры, дзе гучала родная мова. Жывучы ў такім асяроддзі, я паціху пачала разумець, усведамляць, што мова беларуская — мова родная, прыгожая!!! Канешне, я разумела, бачыла, вакол пануе расейшчына, але тым не менш я ў хаце размаўляла па-беларуску. Для мяне гэта напачатку было як гонар, бо ніхто з маіх сяброў мовы не ведаў. У школе беларуская мова ішла цудоўна, калі ў наш клас прыходзіў новы настаўнік, я нават увесь час заўважала яго памылкі, мне так чамусьці здавалася, што мову ведала я лепш за большасць настаўнікаў.*

*Мяне цікавіла ўсё беларускае: гісторыя, культура, археалогія, фальклор, я чытала шмат кніг па гэтых вось тэмах. З цягам часу я адчувала: на Беларусі павольна, марудненька спачатку, але ішло, існавала адраджэнне. Вельмі часта я думала над тым, калі ўсё ж мы вернем тое, што страцілі?..*

*Так, беларуская мова будзе жыць, бо ўжо мову дзеткі могуць вывучаць з дзіцячага садка, з першых класаў. Быў створаны ў 1989 годзе БНФ, які ўнёс прамень адраджэння, існуе ТБМ — культурна-асветніцкі цэнтр, усё паціху адраджаецца не толькі на Беларусі, але і за межамі. На Беласточчыне таксама пануюць фальклорныя калектывы, у маі 1990 г. да нас у Менск прыязджаў беларускі амерыканец Данчык, Багдан Андрусышын, ён так хораша спяваў беларускія песні! Беларуская мова будзе жыць, бо ўжо зараз, на аўтобусных шыльдах назвы пішуцца на роднай мове, ёсць у нас свой, беларускі рок: "Мроя", "Мясцовы час", "Уліс", "Рокіс", рок-гурт "Грамада" і іншыя.*

*Ужо два гады працаваў Беларускі летнік "Грунвальд". Банк РБ выпусціў грошы, напісаныя па-беларуску, існуе ЗБВ, — і таксама спрыяе беларускай справе. Створаны Беларускі гуманітарны ліцэй, які ўвёў у сваю праграму навучанне толькі на беларускай мове.*

*Мы жывём у цікавы час. Рэспубліка Беларусь — незалежная, а значыць мова таксама будзе гучаць! Вельмі б хацелася, каб ужо ў хуткім часе людзі цалкам гаварылі на ёй. Толькі нам, беларусам, трэба таксама рабіць справы дзеля нашага адраджэння!*

*Памятаеце, у паэта Ф.Багушэвіча ёсць "святы" выказ: "Не забывайцеся на мову, каб не ўмерлі!".*

*Я мару, каб, можа праз некалькі год, мае дзеці вучыліся ў беларускіх гімназіях ды ліцэях, каб у іх хатках чулася родная мова і каб не забываліся, што яны людзьмі завуцца, верылі ў Бога, і ў сваю гісторыю.*

Ды паможа нам Бог, і мова будзе жыць. Жыве, Беларусь!!!".

Памятаю незабыўныя ўражанні. Па вуліцы грукоча платформа-прычэп, на ёй — жалезныя кантэйнеры са смеццем. На ржавых бакавінах скрынак трафарэтнымі літарамі пазначана: "Лен.", "Сов."... Што маецца на ўвазе? Няцяжка здагадацца. Трэба чытаць — Ленінскі, Савецкі... Гэта значыць назовы раёнаў, дакладней раённых прыбіральшчыцкіх службаў, каму належыць жалезная скрыня для смецця. І хаця ў поўнай меры ўсведамляеш умоўнасць надпісу, усё роўна ўражвае, быццам тэатр абсурду, трагедыя правадыра і ідэі. Калі белым па жалезна-ржаваму выдрукавана: "Ленінскі, Савецкі". Дык вось мне не хочацца, каб ад ідэй суверэнітэту і беларушчыны засталіся з цягам часу жалезныя ржавыя кантэйнеры, набітыя смеццем, якія спакойна развозяць па горадзе і нікога не працінае сум і жудасць...

Алена АГІБАЛАВА.

Фота У. ПАНАДЫ.

## Даведнік "ПАС"

# Савет нам ды Еўропа

Апошнім часам перыёдыка, тэлевізія і радыё стракацяць у сваіх выступах назовамі міжнародных арганізацый, куды імкнуцца ўступіць або ў якіх ужо ўзялі ўдзел рэспублікі былога Саюза. Але, нягледзячы на тое, што назовы гэтых арганізацый досыць часта паўтараюцца, большасць з нас не ведае, што ж уяўляюць сабой прыгадваемыя сусветныя супольнасці. Часцяком бачна разгубленасць нават журналістаў перад разнастайнасцю абрэвіятур, экзатычнасцю назваў і г.д. Галоўнае ж – не толькі арыентавацца ў моры новых (для нас) згуртаванняў, але і ўсведамляць, якія правы і абавязкі ўскладае на сябе наша рэспубліка, калі бярэ ўдзел ва ўсё новых і новых міжнародных супольнасцях. Такім чынам, мы распачынаем з Савета Еўропы. У ім Беларусь, як вядома, атрымала статус "спецыяльна запрошанага".

Савет Еўропы (СЕ) – найстарэйшая і найбольш прадстаўнічая міжурадавая рэгіянальная арганізацыя, створаная ў 1949 годзе з мэтай садзейнічання больш цеснаму "еўрапейскаму згуртаванню". Пасля ўступлення ў лістападзе 1991 года Польшчы СЕ аб'ядноўвае 26 дзяржаў. (Цяпер да гэтай колькасці даліся рэспублікі экс-СССР). Штаб-кватэра Савета Еўропы знаходзіцца ў Страсбургу (Францыя).

Згодна са Статутам СЕ, ягоным членам можа быць любая еўрапейская дзяржава, якая прызнае плюралістычную дэмакратыю, вяршэнства закона і гарантуе сваім грамадзянам магчымасць карыстацца ўсімі правамі і асноўнымі свабодамі чалавека. Гэта рабіла немагчымым да сярэдзіны 80-х гадоў не толькі членства, але і іншыя формы кантактаў СЕ з усходнееўрапейскімі краінамі. Разам з тым мерка "дэмакратычнай сталасці" скарыстоўвалася і ў адносінах да заходніх дзяржаў. Так, часова выключаліся з Савета Еўропы Грэцыя, а Партугалія і Іспанія былі прыняты ў СЕ толькі пасля падзення дыктатарскіх рэжымаў Салазара і Франко.

СЕ канцэнтруе сваю дзейнасць галоўным чынам на пытаннях правоў чалавека, гуманітарнага, прававога і сацыяльна-эканамічнага супрацоўніцтва, культуры, экалогіі і інфармацыі. Аднак значнае месца ў яе працы, (асабліва ў апошнія гады), займае разгляд актуальных праблем міжнароднага жыцця. Маюцца на ўвазе наступныя прыярытэты дзейнасці СЕ– зносіны Усход-Захад, агульнаеўрапейскі працэс, рэгіянальныя канфлікты і г.д. (зафіксаванае ў Статуце й выключэнне–"пытанні нацыянальнай абароны").

СЕ супрацоўнічае з ААН, Еўрапейскімі супольнасцямі, Арганізацыяй эканамічнага супрацоўніцтва і развіцця (АЭСР) і іншымі міжнароднымі арганізацыямі. 275 неўрадавых арганізацый маюць пры СЕ кансультатыўны статус. Асноўнымі органамі з'яўляюцца Камітэт міністраў, Парламенцкая асамблея і Сакратарыят.

Асноўнай формай выяўлення дзейнасці СЕ з'яўляюцца канвенцыі і пагадненні. На сёняшні дзень у рамках яе прынята больш за 140 канвенцый, пагадненняў і дадатковых да іх пратаколаў. Прычым апошнія замянілі сабой больш за 2500 двухбаковых дамоў. Пераважная большасць пералічаных дакументаў адкрытая для падпісання ўсімі еўрапейскімі дзяржавамі (а некаторыя – і нееўрапейскімі). Аднак ёсць і так званыя "закрытыя" канвенцыі (іх усяго 10), да якіх могуць далучыцца толькі дзяржавы-удзельніцы СЕ. Сярод іх такія аснаватворныя для дзейнасці СЕ дакументы, як Еўрапейская канвенцыя аб абароне правоў чалавека і асноўных свабод і Еўрапейская сацыяльная хартыя. Без удзелу ў дзейнасці, азначанай двума апошнімі пагадненнямі, членства ў СЕ практычна немагчымае.

# НЕ ВЫЖЫВАЦЬ, А ЖЫЦЬ

## імкнуцца першыя недзяржаўныя прадпрыемствы службы быту

**На тэму выжывання сёння можна гаварыць бясконца. Тут і агульны стан нашай разбалансаванай эканомікі, і заняпад асобных галін народнай гаспадаркі. Возьмем бытавое абслугоўванне. І ў лепшыя часы яно забяспечвалася фінансамі і матэрыяльнымі рэсурсамі па рэштакваму прынцыпу, а што ўжо казаць пра дзень сённяшні?**

**Не ад добрага жыцця на парадак дня паўстала рэарганізацыя Нясвіжскага раённага камбіната бытавога абслугоўвання ў калектыўнае прадпрыемства "Дабрабыт". Наш карэспандэнт распытвае яго дырэктара Марыю Елісееўну Скрыннік, як абстаяць справы ў адным з першых прадпрыемстваў недзяржаўнай структуры сёння.**

**– Марыя Елісееўна, чым прынцыпова адрозніваецца дзяржаўнае прадпрыемства бытавога абслугоўвання ад недзяржаўнага?**

— Тым, што калектыў выкупіў асноўныя і абаротныя фонды былога РКБА ў дзяржавы. Адкуль узялі сродкі? За кошт крэдыту ў банку. Вызначаны долевы фонд на кожнага саўладальніка калектыўнай уласнасці (заўважу, што не кожны работнік прадпрыемства "Дабрабыт" — саўладальнік). Разлік сумы на асобных рахунку саўладальнікаў залежыць ад асабістага ўкладу і стажу работы.

**– Хто ж стаў саўладальнікам?**

— Згодна са статутам, ім можа стаць кожны, хто адпрацаваў на камбінаце не менш як два гады і пацвердзіў сваю кваліфікацыю шляхам атэстацыі. Такім чынам, прыярытэт — кваліфікаваным спецыялістам са стажам работы.

Калі дадаць, што нам удалося амаль пазбегнуць скарачэння, то стане зразумела, што нашы намаганні не дарэмныя.

**– Што новага дала рэарганізацыя людзям і Вам асабіста?**

— Лічу галоўным тое, што добрым спецыялістам яна дае ўпэўненасць у дні заўтрашнім; для астатніх ёсць магчымасць вучыцца, атрымаць новую спецыяльнасць, перакваліфікавацца.

Іншая справа, што мы не ізаляваны ад эканомікі, яе праблем. Падаткі забіраюць увесь прыбытак, старыя нарматывы дзейнічаюць пры новых цэнах на сыравіну. І атрымліваецца, што хоць паказчыкі гаспадарчай дзейнасці нармальныя, мы пакуль што не адчулі асаблівых змен.

**– А як наконт псіхалогіі людзей, ці змянілася яна?**

— Час ускладніўся і паставіў умову: даваць аддачу на кожным рабочым месцы. Добрым знакам з'яўляецца тое, што майстры пачалі шукаць заказчыкаў, а не наадварот. Цырульнікі, напрыклад, самі едуць на вёску. Кожнае падраздзяленне ведае свае паказчыкі, колькі сродкаў мае на выплату заработнай платы. Аднак псіхалагічны бар'ер існуе: няўпэўненасць у стабільнасці будучага, чаканне нечага горшага...

Рэарганізацыйны перыяд прынёс безліч клопатаў: усе падраздзяленні пераведзены на новыя ўмовы працы сваімі сіламі, без прыцягнення, напрыклад, навукова-даследчых інстытутаў. А пайшлі на гэта свядома, бо інакш прыйшлося б дорага заплаціць, а народнае прадпрыемства — гэта перш за ўсё рэжым жорсткай эканоміі...

Дадайце да гэтага цэны, якія ўзраслі ў 50-60 разоў, і зразумееце наш настрой.

Попыт на бытавыя паслугі прыкметна скараціўся. Пашыць зімовае паліто каштуе прыкладна 600 рублёў. Няма выбару матэрыялу, фурнітуры. Шыем з таго, што ўдаецца дастаць.

Калі ж быць аб'ектыўным, то ў добрых майстроў справа заўсёды ёсць...

**– А што новае можаце прапанаваць заказчыкам?**

— Гаспадарчым спосабам будуем сталярны цэх і расшыраем цэх рытуальных паслуг. Маем цяпліцу, дзе вырошчваем кветкі: прыемна атрымаць свежы букет да свята...

**– І што з гэтага маеце?**

— Зарплата — 1800 рублёў і вышэй. Адзначаны рост прадукцыйнасці працы.

Галоўны ж наш клопат — разлічыцца з дзяржавай. Яшчэ месяц назад мы мелі доўгу 3,5 мільёна рублёў, сёння — 1,5 мільёна... Імкнёмся ад масавай вытворчасці перайсці да індывідуальных заказаў, каб кожны выраб быў непаўторным...

**І.Чырко.**

**Нясвіжскі раён.**

*НТП на рынку*

# "ХТО НЕ РЫЗЫКУЕ..."

*У прынцыпе, тых прадпрымальнікаў, што будуюць свой "бізнес" на жаданні атрымаць найвялікшы прыбытак адразу, ужо сёння можна зразумець. І сапраўды, ці можна верыць краіне, якая ўжо адзін раз падманула сваім нэпам тых, хто хацеў пабудаваць тут сваю справу, у якой і сёння недапрацаваныя законы і нестабільнае палітычнае становішча? Але ж ці можна таго, хто жыве толькі сённяшнім днём, назваць сапраўдным бізнесменам? Таго, хто не плануе сваю справу на доўгія гады і не жадае, ды й не ўмее рызыкаваць? Таго, хто прыносіў бы сваёю дзейнасцю выгаду толькі сабе, а не сваёй краіне і яе насельніцтву?*

*Сярод шматлікай колькасці "прадпрымальнікаў" сённяшняга дня Інстытут праблем вымярэнняў вызначаецца менавіта сваёю накіраванасцю ў заўтрашні дзень, жаданнем арганізаваць доўгатэрміновы праект. Аб праблемах гэтага шляху — гутарка з намеснікам дырэктара па навуцы інстытута Вячаславам Мікалаевічам КСЯНЗОВЫМ і супрацоўнікам Юрыем МАЛЫКІНЫМ.*

**– Скажыце, калі ласка, чым займаецца ваш інстытут?**

Ю.Малыкін: — Інстытут праблем вымярэнняў, арганізаваны ў асноўным былымі супрацоўнікамі Акадэміі навук, займаецца тым, што распрацоўвае новыя тэхналогіі і новыя матэрыялы, якія ў далейшым будуць выкарыстоўвацца на прадпрыемствах для павелічэння эфектыўнасці працы.

**– Наколькі я разумею, чакаць ад вашага праекта хуткіх прыбыткаў не даводзіцца. Але ж сёння кожны клапоціцца перш за ўсё пра тое, каб як найхутчэй адарваць свой кавалак пірага і схавацца ў цёмным кутку. Ці не адчуваеце вы сябе з гэтай нагоды белай варонай?**

В.Ксянзоў: — І сапраўды, гледзячы на тэлеэкран, пераконваешся, што шматлікія прадпрыемствы рэкламуюць у першую чаргу не тое, што яны вырабляюць, а проста сябе. Наша праца будуецца на іншых прынцыпах. Наш праект — доўгатэрміновы, і атрымліваць сапраўдны і паўнацэнны прыбытак мы зможам толькі праз прыцяглы час. Але самае галоўнае — мы занятыя сваёй справай. Мы робім тое, што можа прынесці канкрэтныя вынікі, тое, што нам падабаецца.

**– Але ж недасканаласць законаў стварае шмат перашкод для таго, хто, як і вы, плануе атрымліваць прыбытак не сёння, а праз пэўны тэрмін...**

— Безумоўна, сітуацыя з законамі вельмі складаная і хвалюе нас. Але ж трэба нешта рабіць. Многія нашы супрацоўнікі адпрацавалі доўгі час у такіх дзяржаўных структурах, як Дзяржплан і Акадэмія навук, і ў рэшце-рэшт прыйшлі да высновы, што рэалізаваць сябе ў творчым плане і навучыцца прымаць практычныя рашэнні яны могуць толькі ў незалежнай структуры. І няхай існуе небяспека, выкліканая недапрацаванымі законамі і нестабільным палітычным становішчам, калі мы хочам нешта зрабіць, неяк сябе праявіць, то павінны рызыкаваць.

**– Вы займаецеся распрацоўкай новых матэрыялаў і новых тэхналогій і, безумоўна, будзеце спрабаваць прадаваць свае ідэі не толькі і не столькі ў нашай краіне, колькі ў краіны Заходняй Еўропы і Амерыкі. Але ці ўпэўнены вы ў тым, што вашы ідэі і распрацоўкі будуць канкурэнтаздольныя?**

— Перш чым заняцца арганізацыяй свайго інстытута, мы вывучылі гэтую праблему. І павінен адзначыць, што нашыя прапановы падрыхтаваны на сусветным узроўні. Акрамя таго, на сусветным рынку вельмі цікавяцца прапановамі і распрацоўкамі такога кшталту, як нашыя. Таму лічу, што мы маем добрую перспектыву.

**– Для выпрабавання вашых новых тэхналогій і матэрыялаў патрэбны сучаснае абсталяванне, высакакласныя спецыялісты і вялікія плошчы і магутнасці. Дзе вы іх знаходзіце?**

— У сэнсе абсталявання і плошчы нам вельмі дапамог Мінскі электрамеханічны завод. А што датычыць спецыялістаў, то шмат каго вабіць магчымасць поўнасцю рэалізаваць сябе, ну і, акрамя таго, нябблага зарабіць. Хаця, безумоўна, здараюцца ўсялякія недарэчнасці. Так, аднойчы мы папрасілі адзін навасібірскі завод зрабіць нам неабходнае абсталяванне, а яны ў абмен запатрабавалі тавары шырспажыву.

**Зм.ЛУКАШУК,**
**аглядальнік па пытаннях эканомікі.**



*...Што мы ведаем пра Прыбалтыку? Што менавіта нашы бліжэйшыя суседзі пачалі развал Саюза? Што ставяць на іх землях помнікі былым эсэсаўцам? Што палююць там за былымі камуністамі і КДБшнікамі? Усё гэтае — вонкавае, сенсацыйнае...*

# ПРЫБАЛТЫКА: ТЭРА – ІНКОГНІТА

*Наша гутарка з жыхаром Рыгі, карэспандэнтам радыёстанцыі "Нямецкая хваля", Робертам АСТРОЎСКІМ прысвечана глыбінным працэсам, якія ўплываюць зараз на падзеі ў Прыбалтыцы, у прыватнасці ў Латвіі.*

**— Роберт, ты толькі што прыехаў з сустрэчы кіраўнікоў урадаў краін СНД. Як вядома, Прыбалтыка ў Садружнасць не ўвайшла. На тваю думку, якія перспектывы сувязяў паміж Прыбалтыкай і былымі рэспублікамі СССР, прынамсі, з Беларуссю?**

— У Прыбалтыкі сувязі з Беларуссю трывалыя. Другая па велічыні, пасля рускай, беларуская дыяспара (140 тыс.чалавек у адной Латвіі) не толькі ўплывае на падзеі, але актыўна дзейнічае. Я даведаўся, што беларускія прадпрымальнікі ў Латвіі нават стварылі сваю асацыяцыю, імкнуцца наводзіць эканамічныя масты паміж дзвюма краінамі. Ёсць і культурныя сувязі — у прыватнасці таварыства "Світанак". Праводзіць "Світанак" вечарыны, іншыя імпрэзы, куды запрашаюцца не толькі беларусы, але і латышы, і людзі іншых нацыянальнасцей. Рэгулярна наладжваюцца выставы беларускіх мастакоў...

Нельга гаварыць пра Прыбалтыку як пра нешта аднастайнае. Эстонія — тая ўзяла курс на поўны разрыў з Усходам. Тамтэйшыя эканамісты сцвярджаюць, што ўсе беды Эстоніі з-за таго, што яна моцна звязана з Расіяй, і трэба тэрмінова пераарыентавацца на Захад, на Фінляндыю...

**– А Латвія?**

— Тут іншае. Калі эстонцы і фіны практычна адзін народ, дык да лыташоў праяўляюць большую цікавасць шведы, датчане... Але і яны вельмі асцярожна ставяцца да інвестыцый у латвійскую эканоміку, што выклікана нестабільнасцю ўнутрыпалітычнай сітуацыі. А сітуацыя гэтая на самай справе неспакойная.

**– Чым жа гэта выклікана?**

— У парламенце ідзе жорсткая барацьба паміж фракцыямі. Раней Латвійскі народны фронт (НФЛ) змагаўся з рускамоўнай фракцыяй "Адзінства". Апошняя зараз амаль не ўплывае на падзеі, а НФЛ развалiўся. Цяпер там бяруць верх усё больш правыя радыкалы, нацыяналісты, я так і сцвярджаю: яны ў нас існуюць. Гэтая фракцыя называецца "Сатварсмэ". Такую назву мела канстытуцыя, прынятая ў Латвіі ў 1922 годзе. Гэтая фракцыя сваёй мэтай ставіць вяртанне прынцыпаў той канстытуцыі. Але ж мы па вопыту ведаем, што вяртанне да мінулага не заўжды нясе прагрэс.

Вельмі хвалюе таксама прысутнасць арміі былога СССР. Гэта дэстабілізуе сітуацыю. Справа ў тым, што ў нас з'явілася зашмат узброеных людзей. Мой сябар, карэспандэнт "Радыё Свабода" па Латвіі Міхаіл Бомбін, спецыяльна падлічыў, колькі ў нас легальных вайсковых фарміраванняў, і налічыў ажно сем...

**– А нелегальных?**

— Пра гэта можна толькі здагадвацца. Хутчэй за ўсё яны ёсць у "Камітэта Грамадзян", арганізацыі крайне правай, члены якой з'яўляюцца прыхільнікамі дэпартацыі рускіх з Прыбалтыкі. У гэтай арганізацыі існуе нават свая контрразведка. У нас ёсць таксама магутная арганізацыя "Замессарге", што ў перакладзе азначае "ахоўнікі зямлі". Члены гэтай арганізацыі фарсяць у плямістай форме, з пісталетамі. Іх вельмі шмат па нашых маштабах — каля 15 тысяч. Аб'яднаныя ў атрады, яны дзейнічаюць у кожным раёне. Структура практычна легальная... І асабліва хвалюе тое, што прымаюць туды вельмі неразборліва. Не тое, што па нацыянальнай прыкмеце — рускія там таксама ёсць, для рэкламы... Іншае непакоіць — людзі там не надта высокага маральнага гатунку. Рэдкі дзень, калі хто-небудзь з іх дзесьці штосьці не вычварыў. Ці то ў п'яным выглядзе страляў у рэстаране, ці то напіўся ды ў яго ўкралі пісталет... Яны практычна пастаўшчыкі зброі для крымінальнага свету, і хаця "Замессарге" афіцыйна заяўляе, што людзей з крымінальным мінулым да сябе не прымае, падобныя факты маюць месца вельмі і вельмі часта. Некаторыя ідуць у "Замессарге" толькі для таго, каб атрымаць зброю...

**– Дык чым жа яны афіцыйна займаюцца?**

— Чым яны толькі ні займаюцца. Дапамагаюць мытнай службе, пагранічнікам. У чым гэта выражаецца? Адзін з дамоў адпачынку на Рыжскім узмор'і вырашылі адабраць у беларускай пісьменніцкай арганізацыі, на грошы якой ён быў пабудаваны. Не зважаючы на тое, што падобныя сітуацыі павінен разбіраць Міжнародны суд у Гаазе, да дырэктара гэтага Дома творчасці, які, дарэчы, супраціўляўся захопу, грукаюць у дзверы. Ён адчыняе — і атрымлівае прыкладам у твар. Мала таго, што дырэктара пакалечылі, яго прыцягнулі ў штаб "Замессарге", дзе адзін з камандзіраў параіў яму "забыцца пра гэты інцыдэнт". Маўляў, усё роўна ніхто нічога не дакажа. Як чалавек мужны, дырэктар наладзіў прэс-канферэнцыю...

Усё гэта да пытання аб нестабільнасці. Узгадаю яшчэ адзін выпадак. На незакончаным аб'екце, што будавалі ў свой час яшчэ савецкія пагранічнікі, ды так і не дабудавалі, вайсковае начальства вырашыла зняць нейкі электрычны кабель. Хтосьці з мясцовых жыхароў палічыў гэта за рабаўніцтва Латвіі. "Замессарге" прастрэлілі колы грузавіка, пачалі заломваць рукі афіцэру, а салдату, які кінуўся яму на дапамогу, прастрэлілі нагу. Справа даходзіць да глупства: настолькі абмежавалі праезд ваеннай тэхнікі на тэрыторыі Латвіі, што варта толькі якой-небудзь вайсковай машыне праехаць па латвійскай дарозе, парламент цэлы дзень абмяркоўвае гэтую падзею... Вайскоўцы гатовыя пайсці з Латвіі, але — куды? Выйсці за межы Латвіі, застацца дзе-небудзь у Пскоўскай вобласці практычна голымі-босымі, тым больш, што Латвія ніякіх сродкаў не выдзяляе... Так, з вайсковымі фарміраваннямі — і новымі, і старымі — вялікія цяжкасці, і таму, паўтараю зноў, заходнія бізнесмены не спяшаюцца ўкладваць інвестыцыі ў эканоміку Латвіі. Праўда, нядаўна група з некалькіх дзесяткаў нямецкіх прадпрымальнікаў прыехала ў рэспубліку, так кажучы, на разведку — даведацца, якія ёсць рэсурсы, прадпрыемствы... Яны ведаюць, што калі сваёй работніцы могуць заплаціць 200 даляраў, эстонцу, напрыклад, хопіць 9-10. Але ж памножце 9 на 150... Праўда, я гавару яшчэ пра тыя, старыя цэны. Акрамя ўсяго, няма абсалютнай адкрытасці — была нават цэлая бензінавая афёра, калі Германія прадала нізкаякасны бензін, калі атруціліся рабочыя і ўсё іншае. З боку Расіі такога ніколі не было. Уся сыравіна, працэнтаў на 80, калі не больш, паступае з Расіі ды з Беларусі. У Латвіі ды па ўсёй Прыбалтыцы прамысловасць перапрацоўчая, арыентаваная на ўсходні рынак. Калі зараз усе гэтыя сувязі пачнуць па жывому рваць... Краіна і зараз у занепадзе: прэм'ер-міністр Годманіс заявіў, што Латвія на мяжы краху — патрэбна 20 мільярдаў рублёў, а дзе іх узяць? Зараз Расія ўзвяла да сусветнага ўзроўню цэны на паліва — на бензін, газ і мазут. І гэта ў той час, калі — мне дакладна вядома — у некаторых кватэрах можна было падтрымліваць зімой тэмпературу толькі каля 10°С!

А памятаеце, як спынілася велічэзная талінская мануфактура, здаецца, "Марат" яе звалі? Узбекістан запрасіў за бавоўну валюту, а дзе яе знайсці? Вядома, тут трэба знаходзіць нейкія ўзаемапрымальныя рашэнні. Маленькай Прыбалтыцы з такімі гігантамі, як, напрыклад, Расія, не справіцца. А гэтага не разумеюць нават некаторыя парламентарыі. А тая ж Беларусь і па тэрыторыі, і па рэсурсах больш за ўсю Прыбалтыку, разам узятую. Тут у вас, я чую, нават бурштын знайшлі. Ды й нафта ў вас ёсць, як мне Зянон Пазьняк гаварыў, прычым вельмі якасная. І вугаль ёсць у вас, і лес, і торфу паўнюсенька. А ў Латвіі пачнеш лес высякаць — дык яна адразу лысая стане...

**– Роберт, а як ты ставішся да Балтыйска-Чарнаморскага саюза?**

— Я прыхільнік такога саюза. Я ведаю, што і Пазьняк ваш за такі саюз, а Станіслаў Шушкевіч, у якога я пару месяцаў таму браў інтэрв'ю, заявіў, што ідэю гэтую трэба разгледзець гісторыкам, эканамістам, палітыкам... Ён яе катэгарычна не абвергнуў.

**– Дык Станіслаў Станіслававіч амаль нічога катэгарычна не абвяргае...**

— Ён так і павінен рабіць, тым больш у інтэрв'ю заходняй радыёстанцыі... А што датычыць Прыбалтыкі, зноў жа, калі яе перапрацоўчую прамысловасць з дапамогай Захаду мадэрнізаваць, ды й не толькі з дапамогай Захаду, Расія, Беларусь і Украіна таксама могуць дапамагчы —эканоміка яе выйдзе на сусветны ўзровень.

**– Якой пазіцыі ва ўнутранай і знешняй палітыцы прытрымліваецца Старшыня ВС Латвіі Гарбуноў?**

— Гарбуноў паддаецца ўціску правых радыкалаў. Дарэчы, хто думае, што ён рускі, — памыляецца. Ён з Латгаліі, дарэчы, мой зямляк. А той раён Латгаліі раней быў часткай Віцебскай губерні, так што хутчэй ён беларус. Раней Гарбуноў выступаў за "нулявы варыянт" — прысвоіць грамадзянства Латвіі ўсім, хто на момант прыняцця закона пражываў на яе тэрыторыі. Цяпер жа ён перамяніў сваю пазіцыю: выказаўся за тое, каб латвійскае грамадзянства прысвоілі толькі тым, чые продкі пражывалі ў Латвіі да 17 чэрвеня 1940 года, г.зн. да акупацыі краіны савецкімі войскамі. І вось Гарбуноў выказаўся за рэферэндум — ці лічыць усіх, хто не падыходзіць пад гэтую катэгорыю, грамадзянамі? Маўляў, патрэбны нейкі "цэнз аседласці"... Гаворыць гэта пра штосьці ці не? Раней рэйтынг Гарбунова быў самы высокі ў рэспубліцы. А ведаеце, чый рэйтынг самы высокі зараз? Раймонда Паўлса! Другім ідзе Яніс Юрканс, міністр замежных спраў.

**– Дык хіба Паўлс умешваецца ў палітыку?**

— З аднаго боку — не. А з другога... Паўлс закрыў Рыжскі тэатр юнага гледача, дзе працуе рэжысёр Адольф Шапіра, які з'яўляецца старшынёй Міжнароднай асацыяцыі маладзёжных тэатраў. Ён паставіў у гэтым тэатры не адну цудоўнейшую п'есу. Паводле слоў міністра культуры Латвіі Раймонда Паўлса, у Рызе не патрэбныя два рускія тэатры... А як змагаліся акцёры! Гэта проста драматычная гісторыя. Справа ў тым, што памяшканне іхняга тэатра раней належала да баптысцкай царквы, і баптысты цяпер яго сабе забіраюць. Гэта толькі нагода, каб закрыць тэатр...

**– Роберт, я вось апошнім часам вывучаю пытанне: ці з'яўляецца прэса сапраўды "чацвёртай уладай" у той ці іншай краіне. Як з гэтым у Латвіі?**

— Прэса ў нас вельмі моцная. Яна здольная ўзарваць грамадскую думку. Публіка ў Латвіі страшэнна чытаючая. Цэны на прэсу, праўда, жудасныя. Людзі падпісваліся на год, а калі праз паўгода прыходзілася праводзіць перападпіску, якая была трагедыя! Вось свежы прыклад, як прэса можа быць выбуханебяспечнай. Ваша калега, толькі на рускай мове, "Советская молодежь" (цяпер яна называецца "СМ сегодня") надрукавала невялічкае інтэрв'ю з Уладзімірам Кандалоўскім, старшынёй Афіцэрскіх Сходаў Паўднёва-Заходняй групы войск. Ён заявіў, што, паводле яго звестак, правыя сілы рыхтуюць пераварот. Маўляў, у яго ёсць свая контрразведка, якая высветліла, што ў розных канцах Рыгі будзе ўзарвана некалькі бомб, туды падцягнуцца сілы паліцыі, розных вайсковых фарміраванняў. Пад гэты час правыя выйдуць з падполля, захопяць тэлеграф, тэлефон, банкі, парламент, адным словам, па ленінскім сцэнары. І вось гэты Кандалоўскі сцвярджае, што расійская армія падтрымлівае законна выбраны парламент, які можа разлічваць на яе дапамогу. Які ж быў рэзананс на гэтае невялічкае інтэрв'ю! Няма ніводнай газеты, якая б ні адгукнулася — маўляў, гэта чарговая правакацыя, гэта сам Кандалоўскі са сваім Афіцэрскім Сходам рыхтуецца захапіць уладу... Гэта быў такі бум, ён і зараз не скончыўся. І яшчэ прыклад. У Літве газета "Пілсоніс" ("Грамадзянін") пачала друкаваць недзе атрыманыя спісы агентаў КДБ. Туды трапілі і многія дэпутаты, нават адрасы людзей давалі... Як іхнія дзеці потым у школу пойдуць? Подлая акцыя, што тут казаць. А кампанія супраць Чапайціса, Прунскенэ? Вось вам і прэса, вось вам і чацвёртая ўлада. З яе дапамогай можна каго хочаш знішчыць...

Гутарку вёў
Алесь ПАЛЫНСКІ.

**Беларусаў называюць найбольш ціхай нацыяй, якая ніколі не ўсчыне разню з прычыны нацыянальных канфліктаў. Але гэта не азначае, што мы цалкам маўклівы народ, які рады і свайму прыгнёту. Калі рабуюць нашую спадчыну, калі нас абмяжоўваюць у правах, калі абражаюць нашыя нацыянальныя пачуцці, і сярод нас знаходзяцца людзі, якія ўзнімаюць свой голас за гонар беларускай нацыі.**

**Цяпер, калі беларуская мова і культура знаходзяцца пад аховай вярхоўнага закона, тым больш трэба пільнаваць наш народ ад нацыянальнай абразы, якая патроху пранікае нават у беларускую прэсу.**

**Але ёсць у Беларусі людзі, грамадскія арганізацыі, якім гэта баліць і боль якіх падзяляюць тысячы людзей, якіх жывіць ідэя Беларускага Адраджэння. Ілюстрацыя таму — сённяшняя падборка.**

*Міністру інфармацыі РБ*
*спадару А.Бутэвічу*

## ЗВАРОТ

Шаноўны спадар міністр!

У апошні час незалежная Рэспубліка Беларусь стала арэнай сапраўднай культурнай агрэсіі ў галіне папулярнай музыкі з боку нашых бліжэйшых суседзяў па СНД. Асабліва гэта стала заўважна пасля таго, як тэлевізійны канал "Астанкіна" быў перападпарадкаваны Расіі.

Прадукцыя гэтай тэлевізійнай кампаніі, якая стварае глебу для нацыянальнага нігілізму ў галіне папулярнай музыкі, увогуле не адпавядае нацыянальнаму менталітэту, традыцыям і культурным уяўленням беларускага народа. Нягледзячы на гэта, з падвоенай настойлівасцю на Беларусь трансліруюцца ўзоры нізкапробных музычных падробак, шлягераў, замешаных на таннай эротыцы і шавінізме. Пры гэтым на творчасць беларускіх выканаўцаў там не звяртаюць увагі.

Становішча ўскладняецца і адсутнасцю дзяржаўнай моўнай палітыкі на нашым нацыянальным тэлебачанні і радыё, дзе падбор і трансляцыя музычнага матэрыялу ўскладзена на густ музычных рэдактараў, якія і самі ў многім знаходзяцца пад уплывам вышэйпералічаных фактараў.

Вельмі мала месца ў перадачах нашага радыё і тэлебачання адводзіцца беларускамоўным творам. І калі некаторыя творы эстраднага мастацтва на роднай мове ўсё ж прабіваюцца да слухачоў, дык кампазіцыі беларускай рок-музыкі – рэдкасць на БТ і радыё. На нашу думку, менавіта апошнія маглі б, у вялікай ступені, стварыць слухацкую цікаўнасць сярод моладзі да беларускай музыкі, да роднай мовы.

Зыходзячы з вышэйадзначанага, лічым мэтазгодным падкрэсліць неабходнасць актывізацыі прапаганды беларускамоўных твораў поп- і рок-музыкі на радыё і БТ. Асаблівую ўвагу звяртаем на творчасць лепшых беларускамоўных калектываў: "Уліс", "Мроя", "Крама", "Мясцовы час", "Бонда", "Новае неба", "Грунвальд", "Грамада", "Зарціпо", беларускіх бардаў ды іншых.

Наспела неабходнасць стварэння на БТ канала беларускамоўнай рок-музыкі, папулярнай і бардаўскай песні, інструментальнай музыкі, распачаць прафесійна і сістэматычна запісваць відэакліпы з творамі беларускамоўных выканаўцаў папулярнай і рок-музыкі, актывізаваць прапаганду іх творчасці сярод рэдактарскага кантынгенту радыё і БТ.

На нашу думку, менавіта гэтыя намаганні не толькі стварылі б процівагу замежнай культурнай экспансіі, якая маскіруецца за культурны абмен, але і надалі б нашаму радыё і тэлебачанню сучасныя нацыянальныя рысы.

Менскі культурна-асветніцкі клуб "СПАДЧЫНА".

## Культурная агрэсія або культурны абмен?

*Мы папрасілі пракаменціраваць Зварот культурна-асветніцкага клуба "Спадчына" міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь А.І. Бутэвіча.*

— Гэты зварот, хаця і адрасаваны мне, я бачу ў першы раз. Так што ваша рэдакцыя выступіла ў якасці паштара... А калі па сутнасці, дык праблема, якая тут узнімаецца, не настолькі простая і адназначная, як гэта спрабуе паказаць клуб "Спадчына". Хай яго ўдзельнікі на мяне не крыўдуюць, але ў чымсьці яны самі сабе супярэчаць. У лісце не растлумачваецца, што маецца на ўвазе пад "сапраўднай культурнай агрэсіяй у галіне папулярнай музыкі з боку нашых бліжэйшых суседзяў па СНД". Ці гэта культурная агрэсія з боку ўсіх без выключэння членаў СНД? Я усіх бы на адзін капыл мераць не стаў. Якая ж тут культурная агрэсія? Калі справа зводзіцца толькі да тэлекампаніі "Астанкіна", дык тое, што ейныя перадачы "не адпавядаюць нацыянальнаму менталітэту... беларускага народа", лёгка зразумець — не можа характар культуры, напрыклад, Прыбалтыкі цалкам адпавядаць беларускаму менталітэту. Для гэтага і ёсць культурны абмен, і пытанне толькі ў тым, наколькі ён цывілізаваны. У той жа тэлекампаніі "Астанкіна" прадстаўлены розныя нацыянальныя культуры. І нашых бліжэйшых суседзяў, рускіх, я так адназначна, як робяць аўтары ліста, не характарызаваў бы. Да таго ж, што адбываецца ў музычнай культуры, трэба адносіцца з аднаго боку спакойна, разважліва, з другога ж боку — прынцыпова. Трэба выхоўваць густ! Тады не будзе ніякай агрэсіі, дакладней, спасылак на агрэсію.

Калі гаварыць пра наша Беларускае тэлебачанне, дык і яго музычныя рэдактары, пэўна, таксама знаходзяцца пад уплывам вышэй пералічаных фактараў. Калі тэлебачанне дзяржаўнае, дык яно і павінна праводзіць дзяржаўную палітыку, у прыватнасці, у галіне мовы. У звароце сцвярджаецца, што трэба на Беларускім радыё і тэлебачанні прапагандаваць беларускую поп- і рок-музыку. Але якраз да тых калектываў, якія пералічаны ў лісце, адносіны Беларускага тэлебачання і радыё далёка не адмоўныя. Іх выступленні гучаць і ў межах розных фестываляў, праграм і паасобку. Зноў жа паўтару: трэба перш за ўсё выхоўваць густ у адносінах да музыкі наогул і да народнай у прыватнасці. Нам трэба выхоўваць павагу да народных традыцый. Але тут, як ні дзіўна, погляды таксама разыходзяцца. У той жа дзень, як вы далі мне гэты ліст на каментарый, вашы калегі са "Знамени юности" надрукавалі матэрыял, дзе таксама ішла гаворка пра Беларускае тэлебачанне. Толькі на гэты раз яго абвінавацілі ў тым, што яно, маўляў, стала прыхільнікам розных "Вячорак" і да т.п. І так гэта з'едліва падаецца, што нібыта нам ужо не патрэбныя ні народныя традыцыі, ні нацыянальныя касцюмы, ні народная музыка. "Граждане в национальных костюмах, голосящие на фоне фанерных декораций... не вызывают доверия..."

Бачыце, ужо сталі "граждане в национальных костюмах"! Не народам — усе мы сталі "гражданами в национальных костюмах, голосящими на фоне фанерных декораций!" Павага павінна быць да саміх сябе! Тады і нас паважаць будуць, і ніякая культурная агрэсія не будзе для нас страшная. Я, дарэчы, не прымаю выраз "культурная агрэсія". Калі мы выхаваем сваю нацыянальную годнасць, нацыянальны патрыятызм, тады пачнём адносіцца з разуменнем да любой нацыянальнай культуры. Адгарадзіцца ад культуры нікому ніколі не было ні зручна, ні выгадна.

Атрымалася так, што мне даводзіцца каменціраваць не толькі ліст "Спадчыны", але і артыкул Рамана Рудзя ў "Знамени юности" пад назваю "Что радует ярых противников?" (№ 72, 30.06.92). Яны на адну і тую ж тэму. Але як па-рознаму яны яе асвятляюць! Артыкул нават пачынаецца досыць з'едліва: "Наше телевидение уже вполне бодро вещает на государственном языке". Не спекулюйце на грамадзянскіх тэмах! Дзяржаўнасць — гэта не такая лёгкая матэрыя, з якой можна легкадумна абыходзіцца. Дзяржава наша Беларуская, і ўсе мы жыхары яе, яе грамадзяне. Дык давайце хаця б — калі на большае не хапае ні сілы, ні розуму — паважаць законы гэтай краіны, традыцыі народа, на зямлі якога мы жывём.

# "ЗЮ" ПУСКАЕ "ЗЮНІ"...

*Год Малпы стаў для маладзёжнай газеты "Знамя юности" годам страты твару. З бадзёранькага іранічнага здаравякі яна ператварылася ў Касандру, якая рве на сабе адзенне. Кропкай адліку такой мутацыі стаў, бадай, зыход з газеты па розных прычынах лепшых яе журналістаў. Грамадска-палітычныя змены ў былым СССР прымусілі "ЗЮ" шукаць пазіцыі на барыкадах, напаткалі яе ў манеўрах і, як казала каханка Астапа Бэндэра Зося Сініцкая, "в каких-то метаниях"*

Здавалася б, у сувязі з самавызначэннем Беларусі, каму, як не маладым жвавым пёрам, пісаць падрабязна гісторыю маладой дзяржавы з самага нуля, весела заўважаючы вострым вокам усе промахі і недаробкі? Але асноўным быў чамусьці абраны жанр галашэння, сусветнай нуды і натужлівай іроніі. Натуральна, пры цяперашніх суровых часах суму хапае і без "ЗЮ". А тут яшчэ і цяжкасці аўтаномнага плавання без бацькоўскай апекі ЦК ЛКСМБ у акіяне дзікага саўковага рынку. Мітусня скончылася выхадам гістарычнага нумара "ЗЮ" ў фармаце раёнкі, што, відаць, было кульмінацыяй працэсу на грэбені адчаю, калі "ЗЮ" амаль усур'ёз гатовая была абмяняць свой адзіны ордэн "Знак Пашаны" на паперу.

Кажуць, што ў гэты час знайшліся людзі, якія прыгалубілі бедную газету, папрасіўшы аб нечым узамен. Асабіста я ў гэта зусім не веру, таму што прадажнасць вельмі стаміла нашага брата журналіста за гады застою і яму зараз хочацца да пенсіі пісаць толькі тое, што думаецца. Гэта значыць, журналісты "ЗЮ" пішуць толькі тое, што лічаць важным.

Напрыклад, перыпетыі гістарычнай барацьбы расейскіх парламентарыяў паміж сабой і іх наступствы для сучаснай цывілізацыі, мышыная валтузня вакол пасад у маскоўскіх калідорах, злавесныя прагнозы будучага ўсіх незалежных дзяржаў СНД, лямант над іх горкім сучасным, раённыя весткі цьмутараканскіх расейскіх правінцый, разам з падрабязным апісаннем душэўных узрушанняў, сплываючых сокам кахання школьніц і парад "як ім злавіць шчасце". У астатнім гэта газета беларуская.

Тым не менш пахіснуты ў народзе імідж "ЗЮ" як органа аўтарытэтнага трэба было неяк падтрымліваць. І ў яе нетрах аднавіўся стары расейскі жанр "павучанняў". Дыдактыка сёння выліваецца адтуль лёгка і натуральна, з самых розных нагод. Ёсць тэмы, у якіх без журналістаў "ЗЮ" проста не разабрацца.


Блюже к теле

Что радует ярых противников?

Роман РУДЬ. «Знамя юности»

Вось, напрыклад, беларуская мова. У нататцы "Што радуе заўзятых праціўнікаў?" аўтар Р.Рудзь спачатку ўражвае парадаксальнасцю мыслення: наша тэлебачанне, аказваецца, пачало бадзёра вяшчаць на дзяржаўнай мове, "цярпліва і карпатліва далучае несвядомага гледача да новых-старых звычаяў, каштоўнасцей, мовы, граматыкі...". Але ўсё гэта дрэнна, таму што "жыхары дзяржавы гэтай мовай амаль не валодаюць". Затым журналіст дае зразумець, што яму актыўна не падабаюцца дзіцячыя пацяшальныя перадачы на беларускай мове і перадача "Запрашаем на вячоркі". І, нарэшце, павольны пераход да жанру: "Слоў няма, вучыць беларусаў беларускай мове неабходна. Але для гэтага спачатку варта было б прызнаць, што ёй валодаюць далёка не ўсе, а потым ужо і пачынаць з Богам".

Вось такія "зюні"! Відаць, прызналі ўжо, калі пачалі вучыць. Калі ж ачысціць гэтыя выказванні ад шалупіння, дык высвятліцца, што сядзеў чалавек перад тэлевізарам і нічога не разумеў, таму як не валодае, і на гэтай глебе адчуў сваю непаўнацэннасць. Але замест таго, каб узяцца за слоўнікі, напісаў з гарачкі "павучэнне". Для тых, хто валодае: спусціцеся, маўляў, да майго ўзроўню.

Што ж гэта будзе далей, калі тэлебачанне на самай справе стане беларускім? Якія яшчэ прызнанні ўзнікнуць перад намі з падсвядомасці суперінтэрнацыяналістаў? Бо Р.Рудзь, не самы заўзяты з іх, яшчэ пакуль пакідае за беларусамі права на родную мову.

Бяру на сябе смеласць як чалавек, які мае дачыненне да тэлебачання, прызнаць ад яго імя, што "беларускай мовай валодаюць далёка не ўсе". Больш таго, гэта сцвярджэнне справядліва ў адносінах да многіх яго работнікаў, але авалодаць мовай яны павінны, таксама як і ўсе грамадзяне Рэспублікі Беларусь, таму што без яе няма ні культуры, ні нацыі, ні дзяржавы, ні нармальнага жыцця. І веданне гэта — вынік індывідуальных намаганняў кожнага, пераадоленне комплексаў, узровень для цывілізаванага чалавека. Нікому ж не трапляе ў галаву думка адмяніць, скажам, Моцарта, таму што яго разумеюць "далёка не ўсе". Людзі, якія жадаюць разумець, слухаюць музыку, чытаюць кнігі, сустракаюцца з музыкантамі, вывучаюць нотную грамату.

Бяда, відаць, у іншым. У неўтаймоўным жаданні падкрэсліць сваю "расейскасць" за кошт падаўлення "беларускасці", стварыць непатрэбную напружанасць у нацыянальных адносінах, стаць у позу пакрыўджанага і затым лямантаваць на ўвесь свет пра ўшчамленне. У псіхалогіі шпаны, якая падпускае спачатку да ахвяры самага кволага і крыклівага правакатара, а потым з лямантам "Нашых б'юць!" топча яе нагамі.

Сцэнарый знаёмы і па гісторыі, і па падзеях у СНД. Толькі ўжо каму-каму, а рускім скардзіцца на беларусаў ніяк нельга. Усім падзяліліся, самым апошнім. Самі апынуліся на мяжы знікнення, але ўсё ж жадаюць зрабіць як лепей, "па-людску", па-добраму. А апаненты пальцам паварушыць не жадаюць, глядзяць ганарыста і павучаюць, павучаюць, павучаюць...

Вось і Р.Рудзь злуецца на самадзейных вясковых артыстаў з перадачы "Запрашаем на вячоркі", якія спрабавалі і яго далучыць да старажытнага славянскага абраду свята Івана Купалы, спявалі беларускія народныя песні, жартавалі, вадзілі карагод, прыносячы радасць тысячам сваіх землякоў. "Грамадзяне ў нацыянальных касцюмах, лямантуючыя на фоне фанерных дэкарацый" — вось што ён убачыў у перадачы. Гэта ўжо мяжуе са здзекамі. Плявок у душу мімаходзь. Іншы б паспрабаваў зразумець, што да чаго хаця б дзеля цікаўнасці, ён жа — адразу з бальшавіцкай непрымірымасцю і беспардоннасцю за пяро: клеймаваць і павучаць.

У адным ахвотна згаджаюся з аўтарам "ЗЮ": "...там, на экране, - карцінкі з паралельнага свету... Там спяваюць песні, якія не ў модзе тут, там гуляюць у гульні, незразумелыя нам, абмяркоўваюць праблемы, якія не заўсёды нас хвалююць".

Так, там на экране было зусім іншае, сапраўднае жыццё, якое вельмі адрозніваецца ад быту падвальных тусовак. Там не спявалі папсу інфантыльныя "сашыкі", "жэнькі" і "аністы". Там не ляпалі па крутых задніцах рослых "цялушак". Там не базарылі між сабой "пацаны". Там праходзіла КУЛЬТУРНАЕ мерапрыемства. На экране былі прадстаўнікі той краіны, насельніцтва якой спрабаваў павучаць журналіст грамадска-палітычнага органа. Ва ўсялякім выпадку гэтыя людзі не забыліся пра сваю мову, пра свае песні і традыцыі сваіх продкаў, адна з якіх — духоўнасць. Яны запоўнілі яе вакуум тэлевізійнага эфіру. Магчыма, камусьці гэта не падабаецца, дык жа ніхто і не навязвае. Просьба толькі паважаць гэтых людзей, тым больш, што яны вырошчваюць той хлеб, які штодзённа падтрымлівае непрымірымае існаванне некаторых журналістаў.

Не трэба разліваць жоўць. Ад гэтага жаўцее твар. Твар Касандры ў парваным адзенні. Уменне душыць імгненныя памкненні і разумець не падобных на цябе людзей — прыкметы прафесійнай журналісцкай работы. Гэтага і хочацца пажадаць ад усёй душы "Знамени юности".

Аляксандр ДУБРАВІН,
рэкламны рэдактар
Беларускага радыё і тэлебачання.

**P.S.** Ганарар за гэтую публікацыю прашу перадаць рэдакцыі газеты "Знамя Юности" для набыцця руска-беларускага слоўніка.

**P.P.S.** З гэтым матэрыялам я перш-наперш завітаў у рэдакцыю "Знамени юности". Там адбылася гаворка з аўтарам крытыкуемага матэрыялу "Што радуе заўзятых праціўнікаў?" Раманам Рудзем і яго таварышамі. У ходзе яе высветлілася, што мы маем прынцыпова розныя погляды на ролю дзяржаўнай мовы ў Беларусі, што робіць немагчымым з'яўленне на старонках "ЗЮ" артыкула ў першапачатковым выглядзе. Таму я палічыў этычным перадаць матэрыял у рэдакцыю "Чырвонкі".

**Праблемы беларускага тэлерадыёэфіру перакрыжоўваюцца і з праблемамі беларускага друку. Натуральна, усё гэта хвалюе і саміх журналістаў, і грамадскія арганізацыі, і ўсіх людзей, якія ўжо цвяроза асэнсавалі, дзе іхняя радзіма і што гэта такое.**

**У якасці працягу гутаркі на гэтую тэму мы змяшчаем выніковы дакумент "круглага стала" БНФ "Адраджэньне" з уласным каментарыем да яго і матэрыялы кароткага рэйду нашага карэспандэнта па праблеме распаўсюджвання беларускамоўнага друку.**

# Выніковы дакумент

## "Круглага стала" на тэму:"Дзяржаўная мова ў сродках масавай інфармацыі", праведзенага 29 чэрвеня 1992 года камісіяй па культуры і гісторыі Беларускага Народнага фронту "Адраджэньне"

1. Патрэба ў скліканні тэматычнага "круглага стала" выклікана трывогай і заклапочанасцю грамадскасці з прычыны адсутнасці дзяржаўнай канцэпцыі адраджэння нацыянальнай культуры і канцэпцыі сродкаў масавай інфармацыі. Нягледзячы на тое, што ў адпаведнасці з артыкулам 29 Закону аб мовах беларуская мова як дзяржаўная прызнаецца пераважнай для выкарыстання ў афіцыйных сродках масавай інфармацыі, перыядычныя беларускамоўныя выданні, тэле- і радыёпраграмы паранейшаму не займаюць належнага месца ў інфармацыйнай прасторы нашай краіны. У суверэннай Беларусі большасць газет і часопісаў дасюль друкуецца на рускай мове, значная колькасць эфірнага часу на тэлебачанні і радыё таксама запаўняецца гэтай мовай. Для незалежнай дзяржавы такая ганебная сітуацыя недапушчальная.

2. Асабліва заганнай практыкай трэба лічыць ігнараванне беларускай мовы выданнямі Савету Міністраў і яго структурных падраздзяленняў (газеты "7 дней", "Рэспубліка"), разлічанымі на масавага чытача. Крокам назад стала завядзёнка друкаваць на дзвюх мовах газеты, якія раней выдаваліся толькі па-беларуску. Удзельнікі "круглага стала" выказваюцца за спыненне на працягу года дзяржаўнай фінансавай падтрымкі небеларускамоўных сродкаў масавай інфармацыі (акрамя выданняў нацыянальных таварыстваў, якія забяспечваюць культурныя патрэбы нацыянальных меншасцяў у Беларусі).

3. Шмат у якіх газетах, а таксама ў тэле- і радыёперадачах абмінаюцца надзённыя праблемы ўмацавання суверэнітэту, не ўдзяляецца патрэбнай увагі патрыятычнаму выхаванню, асэнсаванню ролі роднай мовы ў духоўным жыцці народу. Некаторыя выданні накшталт "7 дней", "Политика. Прогноз. Позиция", "Мы и время" ў дачыненні да беларускае мовы і справы Адраджэння ўвогуле займаюць антыдзяржаўную пазіцыю, скіраваную супраць нацыянальных інтарэсаў беларускага народу.

4. Беларускаму грамадству пільна патрэбны закон аб друку, які адпавядаў бы нацыянальна-культурным запатрабаванням нашага народу. Такі закон трэба прыняць у найбліжэйшы час. Удзельнікі "круглага стала" звяртаюць увагу Міністэрства народнай адукацыі і Міністэрства інфармацыі на недапушчальнасць падрыхтоўкі і падбору па сутнасці дэнацыяналізаваных журналісцкіх кадраў.

5. Зрабіць цалкам нацыянальнай цяперашнюю праграму Беларускага тэлебачання, бо яна не перавышае чатырох гадзін арыгінальнага вяшчання ў суткі. Прыспешыць стварэнне другой праграмы БТ. Вярхоўнаму Савету неабходна заканадаўча рэгламентаваць парадак распаўсюджвання на тэрыторыі Беларусі праграмаў замежных тэлекампаніяў адпаведна з агульнапрынятымі міжнароднымі нормамі. Гэта дасць магчымасць пачаць трансляцыю некаторых замежных тэлевізійных праграмаў на асобным канале міжнацыянальнага абмену, уключаючы сюды перадачы для нацыянальных меншасцяў Беларусі. Функцыянаванне гэтага каналу вымагае стварэнне групы кваліфікацыйных перакладчыкаў з замежных моваў на беларускую.

6. Для стварэння паўнацэннага нацыянальнага тэлебачання неабходна ў самы бліжэйшы тэрмін распачаць фінансаванне дубляжу альбо перакладу на беларускую мову ўсяе кінавідэапрадукцыі незалежна ад таго, на якой мове яна створаная. Гэта дасць магчымасць атрымліваць значны рэпертуар кінавідэапрадукцыі еўрапейскіх краінаў, поўнасцю выкарыстоўваць спадарожнікавую сістэму тэлебачання, абсталяванне якой мае Беларускі тэлерадыёцэнтр.

7. Дзеля якаснага тэхнічнага абслугоўвання нацыянальных тэле- і радыёпраграмаў, з мэтай больш поўнага інфармацыйнага забеспячэння насельніцтва Беларусі прызнаецца мэтазгодным перавесці тэле- і радыёперадатчыкі з падпарадкавання Міністэрству сувязі ў распараджэнне Міністэрства інфармацыі.

8. За апошнія некалькі гадоў беларуская літаратурная мова зазнала пэўнае разняволенне ад штучных, надуманых установак афіцыйнага мовазнаўства, накіраваных на "збліжэнне" і "зліццё" беларускай мовы з рускай. Тым ня менш мова, якая гучыць па радыё і тэлебачанні, выкарыстоўваецца ў часопісах і газетах, скрозь засмечаная непатрэбнымі запазычаннямі і калькамі. Культура мовы журналістаў як правіла вельмі нізкая. Удзельнікі "круглага стала" выказаліся за правядзенне неадкладнай пераатэстацыі працаўнікоў сродкаў масавай інфармацыі дзеля высвятлення прафесійнай прыдатнасці на аснове валодання беларускай мовай.

*АД РЭДАКЦЫІ: Магчыма, не кожны пагодзіцца з апрыёрнымі выказваннямі наконт "адсутнасці дзяржаўнай канцэпцыі адраджэння нацыянальнай культуры", але тое, што гэтая канцэпцыя малаэфектыўная і дае пакуль нязначныя вынікі,— відавочна. Справа ж зрушыцца не ад дэкларацый, а ад канкрэтных захадаў па вырашэнню праблемы.*

*У публікуемым вышэй дакуменце акурат нямала гэткіх канкрэтных прапаноў. І хоць БНФ бярэ на сябе часам пытанні па-за сваёй кампетэнцыяй (напрыклад, "прызнае мэтазгодным правесці тэле- і радыёперадатчыкі з падпарадкавання Міністэрства сувязі ў распараджэнне Міністэрства інфармацыі"), але тут ёсць да чаго прыслухацца дзяржаўным органам.*

*Рэйд "ЧЗ"*

# ПРАЎДА Ў ВОЧЫ...

**Такіх цяжкіх часоў газеты яшчэ ніколі не перажывалі. Столькі гадоў быць прыбытковымі, а цяпер "сесці" на дзярждатацыю – гэта для журналісцкіх калектываў вельмі нязвыкла. Але чытачам да гэтага справы няма. Людзі прывыклі кожную раніцу выцягваць сваю газету з паштовай скрыні, або набываць яе ў кіёску "Саюздруку".**

**Наша "Чырвонка" – не выключэнне з правіл. Узяўшы курс на прапаганду Адраджэння, на падтрымку беларускіх дзяржаўных інтарэсаў, мы не адмовіліся ад беларускай мовы, не перайшлі на так званую "трасянку" – адзін артыкул па-беларуску, другі – па-руску. Тое, як чытаюць менавіта БЕЛАРУСКУЮ прэсу – паказчык цікавасці насельніцтва да праблем культурнага, духоўнага адраджэння нацыі. Паглядзім праўдзе ў вочы: цікавасць большай часткі насельніцтва да гэтых праблем вельмі нізкая...**




Кіёск "Саюздруку" ў падземным пераходзе ля станцыі метро "Інстытут культуры". Кіяскёр З.Сцяпук:

*— Мы атрымліваем 3-5 экземпляраў вашай газеты, разыходзяцца яны за некалькі дзён. "Чырвоную змену" нам спісваць не даводзілася.*

Кіёск ля Камароўскага рынку. Кіяскёр В.Нарынская:

*— Канкрэтна вашу газету мала хто набывае. Чалавекі 2 за тыдзень.*

Кіёск на плошчы Якуба Коласа. Кіяскёр Д.Галадушка.

*— На працягу тыдня прадаём па 10 экземпляраў. На мой погляд, "Чырвоная змена" карыстаецца малым попытам з-за таго, што выходзіць на беларускай мове.*

Кіёск на вуліцы Сямашкі, ля 9-й клінічнай бальніцы. Кіяскёр Г.Чухонцава:

*— Даюць 3-4 экземпляры. Разыходзяцца яны за 2-3 дні. Мала бяруць толькі з-за таго, што дорага каштуе — ажно 3 рублі. Сама я "Чырвоную змену" не чытаю, бо беларускай мовай не валодаю.*

Кіёск на праспекце Скарыны, ля Акадэміі мастацтваў. Кіяскёр Г.Чайкоўская.

*— Бывае экземпляраў 10. У асноўным разыходзяцца ў панядзелак і аўторак. Часам спісваем па некалькі экземпляраў.*

Высветлілася, што самым вялікім попытам карыстаецца "Комсомольская правда" і "Советская Белоруссия". Але нават у гэтых "інфармацыйных гігантаў" спісанне часам даходзіць да паловы ўсёй завезенай партыі. А беларускамоўныя выданні асаблівай папулярнасцю не карыстаюцца...

**А.АКСАНІЧ.**

# МЕЛОДЫЯ СТАРАЖЫТНЫХ МУРОЎ

*Любы храм гучыць. У праваслаўнай царкве гэта музыка чутна знутры, а ў касцёле — звонку. Розныя збудаванні гучаць па-рознаму. Углядаючыся ў адно, чуеш у душы "Дэіс іра", у другое — "Аве, Марыя", у трэцяе — "Рэквіем". Рэквіем, напрыклад, спявае трагічна-стрыманы абрыс касцёла святога Андрэя ў Слоніме. Ля касцёла ж Сымона і Алены (што ў Мінску) чуецца пастаральны "Агнус Дэі". Ён і сам нагадвае не столькі дом божы, колькі якісьці паветраны замак. Гэта збудаванне нібыта ажыццёўленая мроя маленькага дзіцяці, якое разглядвае ў ясны сонечны дзень аблокі і бачыць у небе ці то караблі, ці то жывёл, альбо нават чароўныя гарады. Калі ж гэта дзіця шчыра верыць, дык яно можа ўбачыць і воблака-храм. Пры сустрэчы ж з Гродзенскім фарным касцёлам адчуваеш нейкую радасную ўзрушанасць на душы. Гэтае пачуццё можна параўнаць хіба што з уражаннем апосталаў, што назіралі ўзнясенне Хрыста на неба і ўбіралі ў сябе з радасцю і экстазам дух святы, які разліўся па зямлі.*

Не ведаю, чаму так адбываецца і як растлумачыць гэтыя пачуцці. Можа гэта звязана з архітэктарамі, якія стварылі ўсё гэтае? Можа іх думкі, пачуцці ўкладзіся якімсьці чынам у гэтыя старажытныя муры? Можа мы чуем музыку іх душ?

Гучыць музыка і ў Нясвіжскім фарным касцёле. Мелодыя-гімн. Але гімн гэты нібы прыглушаны, мінорны. Музыка яго, як і гэтыя старажытныя сцены, спакойная і сціплая. Але колькі ў сціпласці гэтай сапраўднай духоўнай глыбіні! Невыпадкова адна з легенд звязвае гэты храм з мелодыяй "Аве, Марыя!" Шуберта, якая быццам бы была напісана для нясвіжскай манашкі сястры Мары і ўпершыню прагучала менавіта ў гэтым "Доме пана Езуса".

Нясвіжскі фарны касцёл пабудаваны за 9 гадоў (1584—1593). Ён з'явіўся першым збудаваннем у стылі барока на тэрыторыі нашай краіны. Будаваў яго (па заказу князя Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіроткі) італьянскі манах-архітэктар Ян Марыя Бернардоні. Некаторыя даследчыкі жыцця гэтага архітэктара лічаць, што ён удзельнічаў у будаўніцтве славутага храма Іль Джэзу ў Рыме. Так гэта ці не, зараз сказаць цяжка. Несумненна толькі адно — за аснову кампазіцыйнай структуры Нясвіжскага касцёла пакладзены менавіта храм Іль Джэзу. Сіротка, магнат і шырокаадукаваны чалавек, ведаў каго запрасіць да сябе на працу. Неймаверна таленавіты дойлід не скапіраваў слепа славуты храм. Ён засвоіў і мясцовыя архітэктурныя традыцыі, і спецыфіку будаўніцтва, і традыцыі народа, для якога будаваў касцёл. Дойлід уплічыў усё гэта і выкарыстаў пры праектаванні. У выніку быў створаны храм, які лічыцца яго найлепшым творам.

Калі глядзіш на касцёл, дзівішся яго спакойнай сціпласці, нявыдуманай узнёсласці. "Барока" ў перакладзе з партугальскай мовы на нашу азначае "ажурны", "пампезны", "выкрутасісты". Пра Нясвіжскі касцёл такога сказаць нельга. Яго сціплую бялюткасць і цэльнасць толькі дзе-нідзе падзяляюць (прыдаючы тую самую здзіўляючую ўзнёсласць) паясы антаблементаў ды чатыры нішы са статуямі.

Але заходзіш у касцёл — і цябе асыпае, таксама, менавіта асыпае, бы праліўны дождж ці вадаспад, цэлы паток фарбаў і адценняў. У першае імгненне ад іх пераліваў проста дух займае. Асабліва ўражвае наведвальнікаў гэта размалёўка ў яркі сонечны дзень, калі промні праз вокны светлавога барабана, які размешчаны пад купалам, заліваюць святлом усю цэнтральную частку храма. Хістанні нагрэтага паветра ствараюць уражанне, быццам фрэскі злёгку расплываюцца, дрыжаць... Асабліва моцны гэты эфект пры міжвольным параўнанні з як бы ахутанымі паўзмрокам бакавымі нефамі. Цяжка нават сканцэнтравацца на якой-небудзь з фрэсак, бо вочы самі пераскокваюць на суседнюю, затым на наступную, затым далей, і трэба неймавернае намаганне, каб спыніцца на адной з іх. І гэта не дзіўна, бо пры ўпрыгожванні касцёла былі выкарыстаны не столькі сродкі архітэктурнай пластыкі, колькі разьба і асабліва жывапіс. Роспісамі пакрыты і скляпенні бакавых нефаў, і прасценкі светлавога барабана, і купал. Прычым манера іх выканання ў розных частках касцёла не аднолькавая — тут ужыты і станковы жывапіс, і паліхромная размалёўка, і грызайльны жывапіс.

Памалу пачынаем разумець, што размалёўка падзяляецца на некалькі груп. Напрыклад, у прасценках барабана намаляваны святыя, прычым у асяроддзе каталіцкіх "зацясаліся" мясцовыя святы Казімір Ягелончык (лічыўся патронам Вялікага княства Літоўскага) і нават Мікола, якога ўшаноўвалі толькі праваслаўныя і уніяты. Велізарнае ўражанне выклікае фрэска "Перамога дабра над сіламі зла". На ёй паказаны кульмінацыйны момант барацьбы сіл нябесных з сіламі нячыстымі. Праваднік святога воінства арханге Міхаіл распрасцёр свае крылы і высока падняў палымяны меч. Каля яго два анёлы. Пераможаныя ім дэманы паваліліся на спіны. Іх цемнаскурыя фігуры намаляваны ў вельмі складаных ракурсах: адзін з іх схапіўся за змея, а той, у сваю чаргу, абвіў правую руку другога дэмана. Фрэска поўная дынамізму, агню, бою. Хоць вынік бітвы ўжо зразумелы, але барацьба яшчэ не скончылася і яе вастрыня не слабее.

Не менш уражвае і цыкл, прысвечаны Хрысту. Асабліва вызначаюцца кампазіцыі "Се-чалавек" і "Бічаванне". На фоне здвоенай каланады пяшчотна-зялёнага колеру Хрыстос у цярновым вянку і набедранай павязцы попельна-блакітнага колеру. Ён стаіць са звязанымі за спінай рукамі. Вочы яго апушчаны долу. За яго спінай чалавек у чалме трымае багравіцу. Перад Хрыстом — дзве ўкленчыўшых фігуры. Яны глядзяць на яго знізу, працягваючы рукі.

Фонам "Бічавання" з'яўляецца такая ж каланада. Праз адтуліну ў даху прасвечвае блакітнае неба. Хрыстос, зноў са звязанымі рукамі, схіліўся пад ударамі. Злева ад яго — воін у даспехах і шлеме, у смарагдава-зялёным плашчы. Справа — чалавек са скурай жывёлы на плячах. У глыбіні карціны — яшчэ адзін воін. Проста здзіўляе, як здолеў мастак так перадаць дынамічнасць поз і жэстаў катаў.

Альбо ўзяць фрэску "Сон Іллі", размешчаную на скляпенні цэнтральнага нефа. Магутны сівы старац паўляжыць, апіраючыся на левую руку, на зямлі. Над ім, быццам міраж, лунае, раскінуўшы белыя крылы, золатавалосы анёл. Па цёмна-блакітным небе плывуць аблокі, зямля вакол старца пакрыта кветкамі. Адценні іх быццам бы прытушаны, што стварае ўражанне паўзмроку, дзівоснасці паказаных падзей...

Але найбольшую ўвагу ў касцёле прываблівае размешчаная ў галоўным алтары карціна. Яе тэмай з'яўляецца біблейскае паданне аб "тайнай вячэры", дзе Хрыстос быццам бы раскрыў апосталам сакрэт сваёй ахвяры і ператварэння яго цела ў хлеб і віно. Хоць гэта карціна напісана на палатне, але тым не менш яна арганічна ўпісваецца ў фрэскавы цыкл касцёла. У верхняй яе частцы — паяснае адлюстраванне светлавалосага доўгабародага Бога-айца Саваофа. Пад ім — архітэктурны фон, на якім размешчаны каланады з паўкруглай аркай, купал, свяцільнікі... Ніжнюю частку карціны займае непасрэдна "вячэра". Хрыстос і апосталы сядзяць наўкол стала, пакрытага зялёным абрусам. Зноў уражвае здольнасць мастака перадаць рух, дынамічнасць постацей.

Са шкадаваннем даведваешся, што першапачатковая размалёўка касцёла не захавалася. Яна загінула ў час пажару ў сярэдзіне XVII стагоддзя. Вядома, што пасля гэтага фрэскі рэстаўрыраваў О.Крыгер. Тыя ж, што дайшлі да нас, былі напісаны прыдворнымі мастакамі Радзівілаў бацькам і сынам Хеске. "Тайная вячэра", змешчаная ў галоўным алтары, напісана ў час іх працы ў касцёле рукой Хеске-сына.

Ёсць у касцёле і напамінанне аб жыўшых у Нясвіжы людзях, прычым не ўскоснае, а прамое. На правай сцяне змешчана мармуровая пліта з партрэтам Уладзіслава Сыракомлі. Крыху далей — скульптура жанчыны, якая ў глыбокай жалобе сядзіць на вечцы труны.

Злева ж, нездалёк ад галоўнага алтара, можна ўбачыць два мармуровыя надмагільныя помнікі. Яны ўстаноўлены на ўспамін аб сынах Мікалая Крыштафа Сіроткі. Каля іх размешчаны барэльеф, выкананы з простага пясчаніку з выявай самога фундатара касцёла рыцара Мальтыйскага ордэна князя М.К.Радзівіла Сіроткі ў адзенні пілігрыма, з шырокапалым капелюшом за плячыма і посахам у руках. За яго спінай ляжаць скінутыя ў кучу знакі рыцарскай годнасці і ўзбраенне. Над барэльефам доўгі надпіс на лаціні. У ёй гаворыцца аб тым, што перад тварам смерці кожны чалавек не рыцар, а толькі падарожнік-пілігрым.

У некалькіх кроках ад гэтай пліты ход уніз. Некалькі каменных прыступак — і ўпіраемся ў нізенькія дубовыя дзверы. Яны з рыпеннем расчыняюцца, і вось ён — фамільны склеп Радзівілаў. Адразу ля ўваходу маленькі алтар. На ім толькі два бронзавыя падсвечнікі, хаця па плямe на сцяне можна зразумець, што калісьці тут быў абраз. Праз маленькія вокны ў памяшканне трапляе крыху дзённага святла.

Але вось мой праваднік ксёндз Рыгор Вікенцьевіч Каласоўскі шчоўкае выключальнікам — і электрычнае святло залівае ўсе сутарэнні. Становяцца добра бачнымі драўляныя саркафагі, размешчаныя ўздоўж сцен цэнтральнай галерэі. Такія ж саркафагі бачны і ў бакавых пакоях. Рыгор Вікенцьевіч паказвае, дзе знаходзяцца дамавіны найбольш вядомых прадстаўнікоў гэтага старажытнага роду. Амаль у самым пачатку галерэі размешчаны саркафагі Сіроткі і яго сыноў. Крыху далей — Караля Станіслава Радзівіла Пана Каханку, таго самага славутага авантурыста, мота, гулякі і брахуна, расказам якога аб яго асабістых прыгодах пазайздросціў бы нават барон Мюнхгаўзен. Спачатку саркафагі здаюцца аднолькавымі, але памалу пачынаем заўважаць такія-сякія адрозненні. Вось той стаіць на львіных лапах, гэты — на птушыных, а той, дальні, наогул на гарматных ядрах (ваяўнічы, напэўна, быў яго "ўладальнік"). У гэтага саркафага медныя, мастацкага ліцця, ручкі, а на тым зверху прымацаваны шкляны крыж, у якім ляжаць засохлыя лугавыя кветкі.

Усяго ў склепе 70 саркафагаў. Цікавы той факт, што на працягу некалькіх стагоддзяў Радзівілаў бальзаміравалі (сакрэт гэтага спосабу хутчэй усяго прывёз з Егіпта Мікалай Сіротка) і толькі ў канцы XIX стагоддзя пачалі выкарыстоўваць цынкавыя труны. Убачыць, праўда, я іх не змог. У 1905 годзе, калі ў касцёле працавала камісія з медыкаў і святароў, былі зроблены бярозавыя саркафагі, у якія змясцілі большасць трун.

На жаль, доўга затрымлівацца тут я не мог, бо набліжаўся час вячэрняй службы, і Рыгор Вікенцьевіч павінен быў да яе падрыхтавацца.

Слухаючы велічныя гукі аргана, я ўспомніў гісторыю, як у гады Вялікай Айчыннай вайны жыхары горада ратавалі гэты арган ад знішчэння. Фашысты загадалі здаць усе вырабы з каляровых металаў. Датычыла гэта і арганных труб. Але нясвіжцы падрабілі даведку аб здачы гэтых труб, а іх схавалі.

Касцёлу наогул пашчасціла. Ён захаваўся на працягу стагоддзяў у сваім першапачатковым выглядзе. У 1944 годзе ў яго трапіў снарад. Ад гэтага загарэліся драўляны купал і дах. Пажар патушылі, але верхняя частка фрэсак пакрылася курадымам. Было вырашана адразу ж пачаць аднаўленчыя работы. Рыгор Вікенцьевіч (дарэчы, ён больш як пяцьдзесят гадоў працуе ксяндзом гэтага касцёла) прыгадаў: "У нас былі велізарныя цяжкасці. Яшчэ ішла вайна. Не было ні людзей, ні будматэрыялаў, ні грошай. Прыйшлося збіраць па грошыку, па капеечцы ў навакольных вёсках. Як бы там ні было, як бы цяжка нам ні даводзілася, але на працягу трох з палавай месяцаў дах і купал мы аднавілі, фрэскі адмылі".

Што ж, падумалася мне, дзякуй Богу, што знайшліся ў касцёла гаспадары, якія зберaглі яго ў цяжкія часы, і што па-ранейшаму ўзвышаецца ён над наваколлем, радуе сваёй прыгажосцю, сваім арганам, ды і сам нагадвае арганную музыку, якая раптам ператварылася ў камяні і застыла ў стагоддзях.

**Мікола БАГАДЗЯЖ.**



**Нарэшце, на Беларусі пачала друкавацца свая так званая "эміграцкая" літаратура: "Народная газета" і "Полымя" адкрылі для тутэйшага чытача выдатную кнігу Францішка Аляхновіча "У кіпцюрох ГПУ", выдавецтва "Мастацкая літаратура" падарыла зборнік твораў Масея Сяднёва "Патушаныя зоры", штотыднёвік "Наша слова" перадрукоўвае лонданскае выданне кнігі Алега Бембеля "Родная мова і маральна-эстэтычны прагрэс", наша газета крыху раней пазнаёміла чытача з працай Юрыя Туронка "Беларусь пад нямецкай акупацыяй".**

**Дарэчы, у нас у гэтай галіне шмат планаў. І сёння мы пачынаем друкаваць мемуары В.Жук-Грышкевіча "25 сакавіка". У 1978 годзе яны ўпершыню былі выдадзены ў Таронта асобнай брашурай "Выдавецкага фонду ўспамінаў з беларускага жыцця".**

**Імя В.Жук-Грышкевіча (1902-1989) да гэтага часу толькі эпізадычна згадвалася ў нашым друку. Між тым, доктар Жук-Грышкевіч – выдатная постаць не толькі беларускай эміграцыі: ён – былы Старшыня рады Беларускай Народнай Рэспублікі. І, спадзяёмся, менавіта ягоныя ўспаміны будуць асабліва цікавыя для нас у той час, калі на нашыя календары патроху выплывае з цемры светлая дата – 25 сакавіка.**

**Мемуары В.Жук-Грышкевіча мы публікуем, захоўваючы правапісную традыцыю аўтара.**




Успаміны з Менску, Будслава, Вільні, Прагі, савецкай турмы

ГЭТЫЯ пяць абразкоў успамінаў — адзін з Першага Усебеларускага Кангрэсу й чатыры з сьвяткаваньня 25-га сакавіка ў розных часох, розных мясцох і абставінах — прысьвячаюцца двум шэсьцьдзесяцігадовым юбілеям: Першага Усебеларускага Кангрэсу і абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.

Успаміны пра 25-га Сакавіка друкаваліся ў 1953 годзе ў Торонто, у газэце "Беларускі Эмігрант". У гэтым выданьні зроблены папраўкі й малыя зьмены.

Да пяцёх абразкоў успамінаў падаю дадаткі: сваю брашурку "БНР ці БССР" і тры Устаўныя Граматы Рады БНР, якія пазволіў сабе перадрукаваць з "Запісаў" БІНІМу № 13, 1975 г., каб папулярызаваць веду пра Беларускую Народную Рэспубліку й асновы ейнай канстытуцыі.

Пры канцы падаю карту Беларускай Народнай Рэспублікі, якая была залучана да брашуры праф. Доўнар-Запольскага "Асновы Дзяржаўнасьці Беларусі", выданай у 1919 г. у Горадні на беларускай і францускай мовах. Мапа гэта была прадстаўлена надзвычайнай Місіяй Б.Н.Р. на мірнай канфэрэнцыі ў Парыжы ў 1919-20 г. Тут яна падаецца ў зьменшаным выглядзе, а францускія напісы заменены ангельскімі. Апрача таго паказаны межы БССР і якія беларускія тэрыторыі далучаны да суседніх рэспублікаў.

**Аўтар.**

## У МЕНСКУ

Сьнежань 1917 году ў Менску. Я, як пісарчук "Всерасійскага Земскага Саюзу" (напаўвайсковая арганізацыя дапамогі жаўнерам на фронце), прыкамандыраваны быў да "Камітэту Северазападнага Фронту", што стаяў тады ў Менску. Горад гэты, перапоўнены войскам, быў надзвычай рухлівы. Але ў паветры чулася яшчэ нешта асаблівае, нейкае нязвычайнае ажыўленьне: усюды гучэлі словы: "Беларускі Нацыянальны Зьезд", "Усебеларускі Кангрэс". Паўтарала гэтыя словы і расейская й беларуская менская прэса й разнаякая цывільная ды вайсковая публіка. Слухаў я гутаркі й дыскусіі аб "Беларускім Кангрэсе" і сярод маіх супрацоўнікаў "Земсаюзу". Спрачаліся расейцы й мясцовыя менчукі аб "Учредительном Собрании", сэпаратызьме, фэдэралізьме й непадзельнай Расеі. Мне — вучню, гэтыя словы тады мала што гаварылі, але я адчуваў, што ў Менску адбываецца нешта вельмі важнае й беларускае, бо Беларусь была на вуснах ува ўсіх. Сэрца маё пачынала ёкаць, пры кожнай важнай спрэчцы я мімавольна, хоць ціха, трымаў старану тых, што баранілі Беларусь і мне страшэнна хацелася ведаць што такое гэты "Беларускі Кангрэс" і дзе ён адбываецца. Асьцярожненька я дапытаўся ўсё-ж: "Беларускі Кангрэс" адбываецца ў рожавым будынку тэатру, недалёка ад Пётрапаўлаўскай вуліцы, дзе я жыў. Туды я й шмыгануў пасьля працы.

На вуліцы й на сквэрыку каля тэатру было большае ажыўленьне, а газэтчык — хлапец больш менш у маім веку — прадаваў тэлеграмкі — надзвычайны дадатак, з крыкам: "Беларусь адзьдзяляецца ад Расеі"! Я цешыўся, што змагу ў яго спытацца, як папасьці на Кангрэс, бо старэйшых і важных мне не хацелася чапаць і я адразу да яго зьвярнуўся. На маё пытаньне хлапец адказаў: "Пачакай, я зараз скончу прадаваць тэлеграмкі, тады разам пойдзем". Мяне падбадзёрыла, што ён гаварыў такой самай гутаркай, як і я, а не "пагарадзкому", і я стаў побач яго. — "На, чытай, калі ўмееш" — сунуў ён мне ў руку тэлеграмку. Я ўмеў чытаць пабеларуску, бо яшчэ перад вайной чытаў беларускія календары з Пецярбургу й "Нашу Ніву" з Вільні. У телеграмцы было напісана, што "Усебеларускі Зьезд" вынес пастанову аб тым, што Беларусь мае адзьдзяліцца ад Расеі. Гэта быў надзвычайны дадатак — ня помню цяпер добра — ці "Вольнай Беларусі", ці "Звону".

Тым часам на сквэрыку зьявілася шмат войска. Жаўнеры ў баявым строі, са стрэльбамі хлынулі ў тэатр. Адразу выбухла нейкая нэрвовая атмасфэра. Прахожыя затрымліваліся каля войска, што заткнула ўсе дзьверы тэатру й адразу пачаўся тварыцца натоўп. Пры самым уваходзе ў тэатр стаяла некалькі кулямётаў. Жаўнеры сталі адціскаць натоўп і загадавалі расхадзіцца. З тэатру пачуўся гоман і вострыя крыкі. Гуло там, як у вульлі. Час ад часу чутны былі стрэлы. Публіка пачала панічна разьбягацца й з нэрвовым цікавым позіркам затрымлівалася воддаль. Мой новы знаёмы даўно ўжо перастаў выкрыківаць сваё "Беларусь адзьдзяляецца ад Расеі!.." і з трывогай пазіраў на тое, што дзеялася навокал. — "Хадзем!" — урэшце сказаў ён і, схапіўшы мяне за руку, пацягнуў да тэатральных дзвярэй. — "Куда вы, мышаняты, вход в театр запрещен!" — крыкнулі на нас жаўнеры й адапхнулі ў бок. — "Бачыш? Разганяюць Кангрэс! Хадзем на другі бок вуліцы, паглядзім што далей будзе", — прамовіў нэрвова мой новы сябра й мы адыйшліся.

А ў тэатры варылася, як у катле. Гоман і крыкі чутны былі аж на другім баку вуліцы. Стрэлы часьцелі. Жаўнераў прыбывала ўсё больш і больш. Яны прыходзілі цэлымі ротамі. Будынак тэатру быў ахоплены вайсковым кругам. Над'ехалі і бранявыя самаходы. Жаўнеры кінуліся разганяць і тых людзей, што групаваліся воддаль. Нам, хлапцом, патапталі ногі й укінулі нас у якісь бочны завулак. Зсінелыя ад сьцюжы, мы стараліся зноў прашмыгнуць да тэатральнага будынку, але нічога з гэтага ня выйшла. Вуліца й сквэрык былі запруджаны войскам, цывільных ня было зусім відаць, усякі вулічны рух тут быў спынены. — "Хадзем да мяне ў "общежитие" — запрапанаваў я. — "Добра, пакажы мне дзе ты жывеш, дык я да цябе прыду пазьней, бо цяпер мушу бегчы ў редакцыю й паглядзець што там дзеецца". — І так мы рассталіся з Лёнькам, бо так называўся гэты рухавы хлапец.

Лёнька прышоў да мяне позна, бо аж па адзінаццатай. Ён не званіў, а пастукаў у вакно, як мы ўмовіліся. Я вышаў на вуліцу. Ён расказаў мне, што Беларускі Кангрэс разагналі бальшавікі за тое, што ён пастанавіў, каб Беларусь адзьдзялілася ад Расеі, што акцыяй разгону кіраваў камісар Крывашэін, што ў тэатры была вялікая бойка й што некаторых беларусаў парыштоўвалі. Называў нават прозьвішчы, але я іх цяпер ня помню. Сказаў мне пад сакрэтам, што ён падслухаў у рэдакцыі, што Кангрэс мае йзноў сабрацца, толькі ён ня ведае дзе. Мы з ім пасябравалі й пазьней шмат разоў спатыкаліся, пакуль я быў у Менску. Гэта быў заядлы беларус. Я яго знайшоў і ў 1910 годзе, калі другі раз быў у Менску — пры паляках. Мы разам хадзілі ў "Беларускую Хатку" на канцэрты й прадстаўленьні.

На другі дзень увесь Менск гаварыў аб разгоне Усебеларускага Кангрэсу. Пісала аб гэтым і расейская прэса. На кожным кроку чуліся дыскусіі. Тады яшчэ бальшавікі толькі прыходзілі да ўлады і ніхто іх надта не баяўся, гаварылі сьмела. У абсалютнай бальшыні дыскутуючых чулася абурэньне супраць бальшавікоў за разгон Кангрэсу. Абураліся ня толькі беларусы, але й расейцы. Мае супрацоўнікі ў "Земсаюзе" толькі аб гэтым і гаварылі. Нават урадаўцы высокай рангі, як упаўнамочаны Уладзіміраў — эсэр па перакананьнях — быў страшэнна абураны. — "Як яны сьмелі разагнаць Беларускі Кангрэс, Кангрэс народу, які найбольш уціснуты быў царскай уладай і першы раз сабраўся, каб сказаць сваё слова!" — казаў ён. Падобных галасоў было многа. А калі пазьней зьявілася вестка, што Кангрэс усё-ж сабраўся зноў у чыгуначным дэпо пад ахаронай чыгуначнікаў, якіх бальшавікі ня сьмелі крануць, што закончыў сваю працу й пераказаў усе свае паўнамоцтвы аб лёсе Беларусі Радзе Кангрэсу — чуліся словы пахвалы й задавальненьня: — "Ай да белоруссы, вот так молодцы, не побоялісь красных штыков Крывошэіна! Не так, как наша эсэрня, что сидит, как мышь под метлой!".

## У БУДСЛАВЕ

Гэта было ў Будславе Вялейскага павету, у Беларускай Гімназіі, якую заснавала беларуская мясцовая інтэлігенцыя й сялянства ўласнымі высілкамі пасьля выбуху расейскай рэвалюцыі. Цяга да навукі ў людзей была так вялікая, што існуючыя там толькі чатыры клясы зьмясьцілі больш за 300 дзяцей. Гімназія працавала нармальна й пад нямецкай акупацыяй у 1918 г. Немцы цікавіліся толькі, каб была добра пастаўлена нямецкая мова й каб ня было бальшавікоў сярод вучыцялёў. Я быў прыняты ў 4-ю клясу, але пакуль набраўся кантынгэнт, сядзеў у трэцяй.

Дзесь у канцы сакавіка дайшла вестка з Менску аб абвешчаньні незалежнасьці Беларусі й да Будслава. Аднаго дня, памятаю, наш дырэктар Васілевіч, узварушаны й вясёлы, хадзіў па ўсіх клясах і дзяліўся з вучнямі гэтай радаснай навіной. — "Рада Беларускай Народнай Рэспублікі абвесьціла незалежнасьць Беларусі, наш край будзе вольным і незалежным, як калісь даўней. Будзе мець свой урад, сваё войска, сваіхураднікаў, свой скарб і свае школы. Цяпер беларусы самі будуць гаспадарамі ў сваей зямлі і ня будзе ўжо нас трывожыць і страшыць чужое войска й паліцыя" — тлумачыў ён. Вучні слухалі гэтыя словы з вялікім зацікаўленьнем і ўвагай, хоць многія яшчэ й не разумелі ўсей важнасьці гэтай гістарычнай падзеі ў жыцьці Беларусі. — "Абвешчаньне незалежнасьці Беларусі ёсьць вялікім нацыянальным сьвятам для ўсяго беларускага народу", — казаў ён далей, — "і наша гімназія мусіць адсьвяткаваць гэта сьвята дастойна й урачыста. Сьвяткаваньне адбудзецца ў наступную нядзелю а шостай гадзіне вечара. Хорам і дэклямацыямі займуцца настаўнікі Папковіч і Ігнатава, яны-ж прыгатуюць усю праграму. А вы, дзеткі, скажыце сваім бацьком аб радаснай навіне й запрасіце іх на сьвяткаваньне разам з іх сябрамі й знаёмымі".

25-га САКАВІКА

УСПАМІНЫ

з Менску, Будслава, Вільні, Прагі, Савецкай турмы

В. Жук-Грышкевіч

Выдавецкі Фонд Успамінаў з Беларускага Жыцьця

Торонто — Канада

1978

Вокладка першага выданьня кнігі

Праз цэлы тыдзень гімназія была ў узбуджаным сьвяточным настроі. Пасьля лекцыяў адбываліся сьпеўкі й рэпэтыцыі дэкляматараў. Хадзілі ў лес па ялінкі й дзеразу, каб прыбраць зеленьню залю. На лекцыях рысункаў рысавалі Пагоню й бел-чырвона-белы сьцяг. Настаўнік рысаваньня, сьв.пам. Мікола Шыла сказаў, што найлепшыя рысункі будуць павешаны ў залі ў дзень сьвяткаваньня. Гэта паддавала імпэту й стараньня ў працы. Сьцяжкі выходзілі няблага, але з пагоняй было горш. Мой сусед Кіслы так праняўся нацыянальнымі колерамі, што ягоны конь у Пагоні вышаў бел-чырвона-белым. З гэтай прычыны ўся кляса падняла рогат і празвала Кіслага патрыётам. Пры конкурсе настаўнік амаль усе сьцяжкі прызнаў годнымі й яны пазьней павісьлі на шнурку ў залі. Пагоні-ж былі збракаваны ўсе. Настаўнік сказаў, каб кожны сабе пакінуў яе на памятку, а для залі намаляваў сам вялікую прыгожую Пагоню.

Нарэшце прыйшоў доўгачаканы дзень сьвяткаваньня. Людзей сабралася столькі многа, што яны запоўнілі залю, сумежныя клясы й нават сенцы. Прыйшлі яны з мястэчка й з суседніх і далейшых вёсак. Урачыстасьць адчыніў дырэктар палкай, хоць і доўгай прамовай. Ён прывітаў усіх прысутных з вялікай навіной абвешчаньня незалежнасьці Беларусі й вытлумачыў, якое значэньне мае гэты векапомны акт. Пазьней ён прачытаў цэлую лекцыю з гісторыі Беларусі, насьвятляючы найважнейшыя мамэнты: Полацкі пэрыяд і Вяліка Княства Літоўскае, зьвяртаючы асаблівую ўвагу на ролю беларускае мовы й культуры ў апошнім.

Гэты вялізарны натоўп людзей у замёрлай цішыні ўспрыймаў як нешта сьвятое першы раз пачутыя словы са сваей гісторыі. Патрыятычны настрой узрастаў. Заканчэньне прамовы дырэктара зьмяніў магутны, як вулькан, кліч народу: "Хай жыве Незалежная Беларусь".

Далей прамаўлялі прадстаўнікі ад Гімназіяльнага Камітэту бацькоў і ад валасьці, а таксама сьв.пам. інжынер архітэкт Дубяйкоўскі з Вільні, які кіраваў будаваньнем дому для гімназіі. Якісь дзядзька з Камарова ці Алешак пачаў прамаўляць, але ня мог скончыць, узварушаньне душыла словы яму ў горле. Ён патрапіў толькі закончыць словамі: "Хай жыве Незалежная Беларусь!", якія, падхопленыя народам, зноў паліліся магутнай хваляй па гімназіяльным будынку й пляцы.

Пасьля кароткай пярэрвы пачаўся канцэртны адзьдзел. Палілася стройная харавая мэлёдыя беларускай песьні, што дагэтуль, бяз ніякага дырыжорства, блудзіла самапасам па палетках. І песьня, нібы атрымаўшая адукацыю, гучэла прыгажэй, як у звычайных жаночых сьпевах. — "Бач, як стройна паюць", — падміргівалі адна другой жанчыны, — "а здаецца тыя самыя песьні, што й мы сьпяваем; відзіш што значыць навука". — Песьні чаргаваліся з дэклямацыямі. Найбольш спадабаліся дэклямацыі Зімношышкі "Бор" — Купалы і "За свабоду сваю" — Купалы, прадэклямаваны найменшым з прысутных — вучнем В. Са сцэны яго зьнясьлі на руках. Нельга было зразумець ці ён плакаў ці сьмяяўся. Супакоіўся тады толькі, як уткнуўся ў падол роднай маткі.

Урачысты, паважны настрой сьвяткаваньня апрануў вопратку весялосьці, калі вучнёўскія пары завіхрылі ў Лявонісе. У танцы прыймала ўдзел уся сялянская грамада, бо, па будслаўскаму звычаю, жанчыны й мужчыны прыплёскавалі ў ладкі ў такт музыкі, а некаторыя прытупавалі нагамі.

Так весялілася ўся грамада, народ спраўляў сваё нацыянальнае сьвята. Ён здаваў сабе справу з важнасьці падзеі ў сваей гісторыі. Тут ня было нічога штучнага. Панавала атмасфэра шчырай, натуральнай радасьці й задаваленьня.

А як пачалі разыходзіцца толькі й гутаркі было аб тым, як пачнецца разбудоўвацца жыцьцё ў новай, вольнай Беларусі, у якой зямлёй будзе карыстацца той, што сам на ёй працуе. Моладзь парушала вайсковыя тэмы, выказвала гатовасьць пайсьці пад родныя сьцягі, як толькі паклічуць. Ведала добра, што першай і неабходнай справай было замацаваньне незалежнасьці маладой Беларускай Народнай Рэспублікі.

А было іх — стройных, як дубы — толькі ў самым мястэчку некалькі дзясяткаў, моцных духам, сьвядомых нацыянальна. Не адзін добры горад мог пазайздросьціць у гэтым малому Будславу. Адны з іх паварочаліся з войска, пабыўшы і ў беларускіх гуртках, другія павырасталі за час вайны. Дзякуючы ім, мястэчка, апрача гімназіі, мела клюб і бібліятэку, тэатр з вялікай заляй, што пакінуў штаб расейскай арміі, хор і струнную аркестру. Ня было нядзелі, каб не адбылося якое прадстаўленьне ці канцэрт. Руньню зелянела беларуская культура, пашыраючыся па суседніх вёсках. І ня было ані сварак, ані непаразуменьняў. Работа йшла ў атмасфэры задаваленьня й згоды пад уплывам цягі да веды й мастацтва. Маладое й здаровае беларускае жыцьцё станавілася на ўласныя ногі, абяцаючы ўзрасьці да сілы волата.

Бязлітасны лёс, аднак, зноў пачаў баразьніць узыходзячую беларускую рунь. Ворагі з Усходу й Захаду шчапіліся клешчамі ў барацьбе за беларускую спадчыну нашых дзядоў, топчачы маладыя ўсходы, руйнуючы й перагараваючы стальлю той грунт, з якога гэтыя ўсходы ўзрасталі.

(Працяг будзе).

# БЕЛАРУСЬ, РОК, ПІВА І ТЭЛЕБАЧАННЕ

*У жыцці нярэдка самыя рызыкоўныя праекты даюць найбольшы плён, а часам і наадварот. Што самае цікавае, у Беларусі найбольш рызыкоўнае... быць беларусам. Гэта было і пакуль што ёсць. Калі заходзіць гаворка, каб укласці кудысьці грошы, рэдка хто ўкладзе іх у беларускую рэкламу, у беларускае выдавецтва, у беларускі шоу-бізнес, затое процьма ў Беларусі дзялкоў, якія займаюцца менеджментам розных "Ласкавых маёў" ды "Кар-мэнаў", нягледзячы нават на частыя апошнім часам няўдачы, калі публікі збіраецца толькі на чвэрць залы.*

"Гіблы нумар, — сказаў адзін малады чалавек, зірнуўшы на першыя адбіткі афіш, дзе кідаліся ў вочы асабліва буйныя літары слова "Бонда". — І спонсар ваш, таварыства "Аншлаг", прагарыць, і ў залу ніхто не прыйдзе. Хто ж пойдзе на вашых беларусаў, калі добра рэкламаваныя тэлебачаннем усесаюзныя зоркі аказваюцца ў пралёце. Хіба што бясплатна завабіце кагосьці".

Калі я сказаў яму, што білеты будуць па 25 рублёў, ён увогуле назваў усіх саманадзейнымі вар'ятамі і пайшоў прэч, здавалася, назаўсёды.

Аднак нам яшчэ давялося пабачыцца. 18 чэрвеня я сустрэў яго — сціплага і разгубленага — ля касы Менскага альтэрнатыўнага тэатра, дзе красаваўся кідкі аншлаг: "Вольных месцаў няма".

Не ведаю, ці спадзяваўся спонсар "Аншлаг" на гэты аншлаг, але прагарэлі ў той дзень іншыя, хто не верыў у жыццёвую сілу беларускага рока, ягоных легенд.

Праўда, я прыгадваю, што рабілася ў Польшчы, калі легендарны "Перфект" аб'явіў аб сваім камбэк-канцэрце: краіна спачатку замерла ў чаканні, а потым на канцэрт панаехала тэлебачанне, радыё, відэа- і гуказапісваючых фірм, панабралася спонсараў...

У нас легенда адраджалася ў мёртвай цішыні. Жывымі аказаліся толькі публіка, музыкі і таварыства "Аншлаг".

"Бонда" пачынала свой шлях у тыя змрочныя часы, калі і рок-музыка, і ідэя нацыянальнага адраджэння былі сінонімамі паняцця "дысідэнт" Адсюль — усе вынікаючыя, гэтак мовячы, абставіны. Дый што казаць: само слова "бонда", якое паходзіла не з агульнапрынятай белсавмовы, а з "нацыяналістычнага слоўніка Ластоўскага", было пад забаронай, з-за чаго легендарная пяцёрка музыкаў неаднойчы давала тлумачэнні ў розных ЦК.

І ўсё ж яны свядома вырашылі цалкам прысвяціць сябе "гіблай" справе: яны захапіліся забароненай музыкай, абгрунтавалі яе на забароненай ідэі і ўзялі забароненую назву. Не, не таму, што забароненае вабіць... Відаць, таму, што ў іх быў імунітэт да тагачаснай хваробы грамадства, калі сын, які паважаў сваю матку, лічыўся непаўнацэнным.

Хоць спачатку "Бонда" (побач з "Мрояй") была белай варонай, але калі яна знікла, мы ўсе адчулі, што жыццё нашае не стала больш выразным. Хутчэй — шэрым. І ў гэтай страце светлага колеру нарадзілася мара пра адраджэнне.

Калі ў 1989 яшчэ не верылася, што "Бонды" ўжо няма, хоць нарадзіўся "Уліс", дык у 1990-м жыло спадзяванне, што тыя, хто застаўся, адродзяць "Бонду". Нават, калі Янка Маркаў пачаў даваць першыя канцэрты з "Літл блюз бэндам". Але настаў 1991-ы, і калі ўжо Ігар Варашкевіч усплыў у "Рокісе" (які потым назваўся "Крамай"), на сэрцы стала трывожна: мара пра ўваскрэсенне "Бонды" губляла пад сабой грунт, бо не засталося ніводнага свабоднага "бандыта".

І раптам напачатку чэрвеня сёлета беларуская сталіца застракацела да болю знаёмымі афішамі: "Бонда". І хоць драбнейшы шрыфт уносіў істотныя змены ў сэнс афішы (гэта было запрашэнне на рок-сэйшн з удзелам гуртоў "Уліс", "Крама" і "Літл блюз бэнд", прысвечаны светлай памяці групы "Бонда"), усё ж імпрэза абяцала наталіць настальгію па добраму року часоў падпольнага непадпарадкавання.

Прызнацца, многім тутака ж давялося ўсвядоміць ісціну: тое, пра што арганізатары марылі як пра поспех, значную частку публікі сутыкнула з няўдачай — усюды, дзе маглі прадавацца білеты, быў аншлаг.

Так, "Бонда" ўсё ж, сапраўды, жывая легенда. Да яе хочацца вярнуцца, як у казку. Невыпадкова ж, калі група арганізатараў захапілася ідэяй такога канцэрта, гэтая ідэя знайшла шчырую зацікаўленасць і разуменне. Былыя музыкі гурта, які разбегся, адразу выказалі згоду сустрэцца на адной сцэне. А бард Алесь Камоцкі падтрымаў настальгічную ідэю канкрэтным унёскам — дапамог знайсці спонсара.

А ў той вечар у зале можна было знайсці і Сяргея Брыксу, і музыкаў "Мроі", "Зарціпо" — тых, хто разам з "Бондай" распачынаў беларускі рок-рух, хто стаяў ля вытокаў нацыянальнага рок-клуба "Няміга". Кожны потым пайшоў сваім шляхам, і была магчымасць параўнаць вынікі.

Былі ў зале і зусім юныя рокеры, якія толькі спрабуюць ствараць уласныя гурты — сімптаматычна, што і яны прыйшлі "пачысціць сябе пад "Бондай".

Перафразаванні Маякоўскага мелі, дарэчы, багатую крыніцу ў гэты дзень. Публіка, якая бітком забіла залу, і калегі па сцэне, сябры, журналісты, і халяўшчыкі, якія закаркавалі сабой праходы, балконы, сходы, сцены, з усмешкай паглядалі на велізарны транспарант пад столлю:

*"Гаворым "Бонда", а маем на ўвазе піва,*

*Гаворым "піва", а маем на ўвазе "Бонда".*

**В.І.Ульянаў (Крупскі).**

Не скажу, ці ведаў прыпісваемую яму цытату карэспандэнт беларускай рэдакцыі радыё "Свабода" Васіль Крупскі, але ўпэўнены, што і ён не адмовіўся б ні ад "Бонды", ні ад піва.

Зрэшты, пра піва пазней...

Рызыкоўную місію адкрыць канцэрт узяла на сябе "Крама". Ейны гітавы рок, заснаваны на рытм-энд-блюзе, апраўдаў спадзяванні. Дый прадуманая пабудова праграмы зрабіла сваё: спачатку размяклая пад цёплым надвор'ем і напружаным жыццём публіка моўчкі ўпусціла ў сябе прыгожыя мелодыі, а потым пакрысе пачала ажыўляцца разам з абвастрэннем рытму. "Вечар у карчме", які аказаўся ў дошку беларускім гітам (нібыта рок-н-рол бацалі тут яшчэ з часоў Вялікага княства), стаў апагеем "крамаўскай" праграмы.

Здавалася, куды ўжо далей. Але толькі заспявала гітара ў руках Янкі Маркава, як у разгарачаных целах узнікла адчуванне ўнутранага агню. Запалілася душа. Адно шкада, што, аддаючы частку сябе інструменту, Янка Маркаў знаходзіўся занадта далёка ад Беларусі. Трыо "Літл блюз бэнд" выканала шэраг прыгожых блюзаў як уласнага сачынення, гэтак і класічнага рэпертуару. Іх прыемна было слухаць, але цяжка было ўтрымаць у свядомасці.

"Уліс" усцешыў цудоўным захаваннем формы, але расчараваў сваім новым вакалістам. У мяне асабіста кожны твор будзіў успаміны пра Андрэя Патрэя. І ўспаміны настальгічныя. Не скажу, каб Алегу Тамашову быў падуладны меншы вакальны дыяпазон, але ён яшчэ не стаў асобай, не намацаў свой сцэнічны вобраз. Я ўсё чакаў, што новыя песні "Уліса", якіх яшчэ не спяваў Патрэй, дазволяць абстрагавацца ад яго. Але гэтак не сталася.

Затое ў астатнім "Уліс" застаўся сабой — камандай экстра-класа. Гітара Вячкі Кораня проста зачароўвала. Дый сама музыка была чароўным плёнам... не, не толькі натхнення, але і інтэлекту.

Здавалася, канцэрт ужо падыходзіў да завяршэння, калі вядучы (дарэчы, наш "чырваназменавец") Зміцер Лукашук пачаў прадстаўляць музыкаў:

— Сяржук Краўчанка ("Уліс"), Вячаслаў Корань ("Уліс"), Сяржук "Боршч" Кныш ("Уліс"), Валеры Цініцкі ("Уліс"), Янка Маркаў ("Літл блюз бэнд"), Ігар Варашкевіч ("Крама"), Алесь "Клаўс" Белізяк ("Крама"), а ўсе разам — "Бонда".

І зайграла "Бонда". Гэта быў поўны адпад (прабачце за слэнг). Нават мяне, старога рокера, якога, здавалася, нішто ўжо не адарве ад крэсла, падхапіла нейкая сіла і далучыла да віру фанаў, якія гайдаліся ў такт песні "Прыйдзе іх дзень". Гэта было сапраўднае яднанне, памятнае яшчэ з тых часоў, калі "Бонда" (у 1986) выступала побач з "Магістратам" на адкрыцці рок-клуба "Няміга".

Ізноў цяпер, як і тады, натоўп незадаволеных, якім не хапіла білетаў, ламануў дзверы і ўціснуўся ў залу.

Так, можна было ўсё ж арандаваць Палац спорту. Гэта факт. Як факт і тое, што беларускія рок-легенды — гэта не міф.

Потым, калі публіка разышлася, а музыкі, журналісты і іхнія сябры засталіся на піва ў дворыку Альтэрнатыўнага тэатра, падзяліліся намерамі "ўзгадаць былое" музыкі "Мроі". З захапленнем выказваліся пра гэта экс-"Блізняты". Пакуль, на жаль, не было каму, акрамя С.Брыксы, выказацца за "Магістрат", але добрае "Беларускае" піва мацавала лепшыя настальгічныя пачуцці беларускіх рок-легенд.

Чытач, прачытаўшы артыкул і прыгадаўшы яшчэ раз загаловак, магчыма, здзівіцца: "А пры чым тут адно да аднаго?". Тады нагадаем, як О.Генры распачынае свой раман "Каралі і капуста": "У гэтым рамане ёсць усё, акрамя каралёў і капусты"

У нас крыху іншая сітуацыя: там, дзе ідзе беларускае адраджэнне, ёсць усё — моладзь, рок-музыка, піва... Няма толькі Беларускага тэлебачання.



**Вітаўт МАРТЫНЕНКА.**

**Фота У.ПАНАДЫ.**

**Сацыялагічных даследаванняў на гэту тэму вельмі мала. Але і без іх кожнаму з нас зразумела, як цяжка бывае выратаваць сям'ю, калі прычынай яе распаду становіцца**

# ЗДРАДА



Як там было ў класіка? Усе шчаслівыя сем'і падобныя адна на адну, кожная нешчаслівая сям'я няшчасная па-свойму.

Тое, што яе сям'я нешчаслівая, Таня зразумела ўжо на восьмым месяцы іх з Андрэем сумеснага жыцця. Спачатку, натуральна, усё было добра. Толькі не вельмі працяглым аказалася гэта "спачатку"...

Таня, толькі-толькі адарваная ад мамы і настаўнікаў, не спадзявалася, што на яе, "пігаліцу", зверне ўвагу пяцікурснік, па якому сохла не адна прадстаўніца слабага полу іх факультэта. Тым больш чуткі, якія хадзілі пра Андрэя ў жаночым асяроддзі, больш насцярожвалі, чым абнадзейвалі. На працягу чатырох гадоў не адной, не дзвюм і не тром паспеў ён падарыць шчасце сябе кахаць. І кахалі. Да звар'яцеласці. Да выклікаў у кабінет дэкана за прапушчаныя "пары". Нават да спробы скончыць жыццё самагубствам. Штучна перарваных цяжарнасцей увогуле ніхто не лічыў. Але яму ўсё сыходзіла з рук. Ніхто нікуды не скардзіўся і ніякіх прэтэнзій не прад'яўляў, хаця ўсе пра ўсё здагадваліся.

Таня спачатку баялася нават зірнуць на яго, калі пры сустрэчы праходзіў міма, — крый Божа, яшчэ падумае не тое. Але цікавасць не пакідала. За што, за якія такія вартасці выдзяляюць яго сярод іншых факультэцкія "мадонны", чаму без аглядкі кідаюцца ў вір пачуццяў, а потым ціха адыходзяць у цень, саступаючы месца новым і новым? Ну, займаецца спортам — каго сёння гэтым здзівіш? Добра, з густам апранаецца — бацька працуе недзе за мяжой. Да ўсіх падзей, што адбываюцца на факультэце (сходаў, культурных мерапрыемстваў і да т.п.), адносіцца з лёгкай іроніяй, як да чагосьці дзіцячага, нязначнага і нікчэмнага. Прыгожы? Не тое каб вельмі, але нешта прыцягальнае ў твары ёсць...

Андрэй падышоў да яе першы і прапанаваў лішні білецік на канцэрт нейкай "зоркі". Гэта было дзіўна, тым больш што на апошнім перапынку дзяўчаты ў жаночым туалеце горача абмяркоўвалі бурны раман свайго куміра з "францужанкай".

"Табе што, няма з кім больш пайсці?" — здзіўлена-насмешліва спытала яна. "Калі ты не супраць, усе астатнія пачакаюць".

Таня зразумела, што прыйшла яе пара. І — дзіва! — не змагла, не захацела гэтаму працівіцца. Толькі вырашыла трымацца як бы на дыстанцыі, не даць сябе "прысвоіць", не падладжвацца і не вешацца на шыю...

Рашэнне заўсёды лягчэй прыняць, чым выканаць. І ў першы ж вечар пасля канцэрта, калі ў пад'ездзе ён упэўнена прыцягнуў яе да сябе, Таня на нейкі момант забылася... "Можа, пойдзем да мяне? — спытаў Андрэй. — Пакажу табе калекцыю сваіх пласцінак, паслухаеш добрую музыку. У мяне ў асноўным — класіка. Павячэраем разам...".

Яна падумала, што гэта ўсяго толькі прыём нябачнай барацьбы. Прычым, не самы арыгінальны. Ах, класіка! Моцарт, Бетховен! А потым — у ложак... Яна мякка ўзяла яго руку: "Прабач. Занадта многа музыкі ў адзін вечар..."

На запрашэнне Таня згадзілася толькі праз месяц. А праз два яны панеслі заяву ў загс. Не трэба казаць, што падзея мела эфект узарванай бомбы. Тані зайздросцілі, яе разглядалі, перашэптваліся за спіной. І, натуральна, у адзін голас аб'явілі дзяўчынай у "цікавым" становішчы. Але гэта было няпраўдай.

Яна здолела закрануць яго душу. Прымусіла быць самім сабою, перажываць, пакутаваць без яе, сустракаць перад першай "парай" і чакаць з апошняй...

І не трэба ламаць галаву, чаму так здарылася. Бо не мы выбіраем каханне, а яно — нас. Мінулыя паходжанні будучага мужа Таню не хвалявалі. Шукаў, выбіраў, пакуль не прыйшло галоўнае. Колькі ж можна гуляць? Праўда, прыяцелька са старэйшага курса неяк прагаварылася: "Навошта табе, Танька, гэты замуж? Колькі ваўка ні кармі — усё роўна ў лес глядзіць. Наплачашся яшчэ..." "Зайздросціць", — падумала Таня.

Сямейнае жыццё пачалося ў кватэры свякрові, дзе ў іх распараджэнне быў аддадзены цудоўна абсталяваны вялікі пакой. І ніхто не перашкаджаў ім ні ранкам, ні днём, ні ноччу. Дадому Таня ляцела на крылах. А там яе ўжо чакаў муж, пяшчотны і нецярплівы... Першыя прыкметы цяжарнасці яна адчула праз некалькі месяцаў іх сумеснага жыцця. Сказала Андрэю, і той нібыта ўзрадаваўся, пашкадаваў толькі, што зараз яны не змогуць часта займацца каханнем — гэта можа пашкодзіць будучаму дзіцяці... Тані з кожным днём станавілася ўсё горш. Мучылі рвота і моцны галаўны боль. Андрэй па начах бегаў па тазік, шукаў таблеткі, заварваў свежы чай... Яна пашкадавала яго (муж рыхтаваўся да абароны дыплома) і перайшла на некаторы час жыць да мамы.

Андрэй прыязджаў кожны дзень, прывозіў "вітаміны" з базару, яны гулялі па вуліцы або глядзелі тэлевізар, а потым развітваліся да заўтра. Таня выглядала вельмі стомленай і змучанай, твар раздаўся, вейкі напухлі... Яе, здавалася, нічога не цікавіла. Адзінай радасцю ў жыцці заставаўся Андрэй. Яна апантана чакала яго прыездаў, а прыязджаў — замыкалася ў сабе, разумеючы кантраст паміж мужам, прыгожым і вясёлым, і сабой. "Я хачу дамоў, — сказала яна аднойчы. — Не магу больш". "Ну, пачакай яшчэ трохі, — супакоіў ён. — Што дома? Мама ўвесь час на дачы, я ў бібліятэцы або пішу дапазна. Раптам з табой што здарыцца? Ніколі сабе не дарую..." Таня паслухалася. Але ноччу, калі ўсе даўно спалі, яе ахапіла невядомая, незразумелая трывога. Было чамусьці страшна. Здавалася, што яна праваньваецца ў бездань і няма гэтай бездані канца. Ледзь дачакаўшыся раніцы, выклікала таксі і паехала на другі канец горада.

Пакуль паднімалася па лесвіцы, не пакідала прадчуванне нейкай бяды. Дзверы... Яна адчыніла іх сваім ключом і ўвайшла ў прыхожую. Цішыня і ранішні паўзмрок супакоілі. Асцярожна, каб не разбудзіць мужа, адчыніла дзверы ў свой пакой. Спачатку кінулася ў вочы жаночая бялізна, раскіданая на падлозе каля ложка. Потым — маленькі столік з недапітымі бутэлькамі і бруднымі талеркамі, потым — прыгожае цела мужа, а побач — яшчэ адно... Таня закрычала, нейкі страшэнны боль пранізаў яе знізу даверху, і яна страціла прытомнасць.

...Потым, калі з бальніцы хуткай дапамогі маці забрала яе дадому, гэты боль, толькі больш прытуплены, Таня адчувала часта. І ніякіх лекаў яд яго не было, таму што так магла балець толькі душа...

У той час мы не бачыліся, але зрэдку размаўлялі па тэлефоне, аб чым вельмі прасіла яе мама... Андрэй таксама прыходзіў, але Таня пасля пяці хвілін размовы з ім зрывалася і пачынала плакаць. Ён не выносіў слёз, папярэджваў: "Калі не перастанеш, я пайду. У мяне і так няма часу". Яна прымушала сябе перастаць, але не магла. "Як хочаш", — гаварыў ён і адыходзіў. Яна здагадвалася, куды.

Больш за ўсё Таня пакутавала ад раздвоенасці. Ад барацьбы кахання і нянавісці. Ад няведання, што рабіць: развітацца назаўсёды ці жыць разам з чалавекам, які ёй здрадзіў, кожны дзень бачыць яго і думаць пра гэту здраду, і сціскаць душу ў кулак, і зноў ненавідзець, і зноў любіць? Божа міласэрны, калі ты ёсць, пашлі ўсім здраднікам тыя самыя мучэнні, ад якіх пакутуюць пакрыўджаныя імі...

Нязадоўга да родаў Таня вярнулася да Андрэя. Ён сам адвозіў яе ў радзільны дом. На свет з'явіўся хлопчык, і за клопатамі аб ім ёй было не да ўспамінаў, а, магчыма, яна радавалася шматлікім гэтым клопатам як нейкаму выратаванню ад сябе самой. Пачалося звычайнае, як у многіх з нас, жыццё, з вялікімі праблемамі і маленькімі радасцямі.

Яны і зараз так жывуць. Хлопчык падрос і ходзіць у дзіцячы сад. Андрэй — у пастаянных камандзіроўках або на дачы ў сяброў, або на паляванні. Таня з радасцю прымае любую з гэтых версій, абы толькі не ведаць аднаго — праўды.

Аднойчы ёй пазваніла нейкая жанчына і патрабавала даць Андрэю развод і не перашкаджаць іх каханню. "А пайшла ты..." — Таня злосна аблаяла саперніцу і кінула трубку. Хацела паслаць мужа на ўсе чатыры бакі. Некаторы час нават жыла ў мамы. Потым зноў вярнулася, не змагла вынесці адзіноты. Вярнуўшыся, натыкнулася на свёкра, які да таго часу ўжо вярнуўся з далёкай афрыканскай краіны. "Слухай, — спытаў ён прама, — ты маеш хоць кроплю жаночай годнасці? Што гэта за беганіна туды-сюды? Або ідзі назаўсёды, або цярпі. Такая ваша жаночая доля". І паплыла Таня па цячэнню...

...Неяк на вуліцы мне пасігналілі вішнёвыя "Жыгулі". Падышла і ўбачыла іх утраіх. Андрэй выйшаў і пачаў заклапочана корпацца ў маторы. Таня, з густам нафарбаваная і апранутая па апошняй модзе, выглядала калі не шчаслівай, то задаволенай. Хлопчык нецярпліва круціўся побач з ёю: "Мама, ну што там тата не ідзе? Мы ж спазняемся". "Сабраліся ў госці, — растлумачыла яна. — Праз месяц — у адпачынак. Сярожу пакідаем бабулі, самі едзем у Адэсу. У мяне зноў пачалася светлая паласа".

Я пажадала ім шчаслівай дарогі.

**Наталля Стралкова.**

**АД РЭДАКЦЫІ:**

**Як адносіцца да нявернасці ў шлюбе? Што ўвогуле лічыць такою? У якіх выпадках можна дараваць здраду, а ў якіх немагчымы нават самы маленькі кампраміс? Адказы на гэтыя і іншыя пытанні чытайце ў адным з бліжэйшых выпускаў "Адама і Евы".**

# СМЯРОТНЫЯ КАНІКУЛЫ

*Пара доўгачаканых канікулаў прынесла дзецям і іх бацькам не толькі шмат радасных уражанняў, але і непрыемнасці. Многія бацькі сёння не ў стане забяспечыць сваім сем'ям паўнацэнны адпачынак.*

У выніку на вуліцах гарадоў з'явілася шмат дзяцей, якія бадзяюцца, не ведаючы, куды сябе падзець. Многія з іх спрабуюць вырашыць свае праблемы, не чакаючь дапамогі ад "дзядзькаў", якія сядзяць на дзяржаўных крэслах. Мы ўжо расказвалі, напрыклад, пра мінскіх хлопчыкаў, якія настойліва прапануюць свае паслугі па мыццю і запраўцы аўтамашын іншаземцам ("ЧЗ" № 25).

На жаль, многія дзеці выбіраюць іншы шлях і дастаўляюць шмат клопату мінскай міліцыі. Пра гэта — гутарка нашага карэспандэнта з начальнікам інспекцыі па справах непаўналетніх УУС Мінгарвыканкама Л.Клюевым.



— Сёння амаль 30 працэнтаў непаўналетніх удзельнікаў злачынстваў — падлеткі, якія не заняты вучобай і працай. Расце колькасць крадзяжоў і ўгонаў аўтамашын і матацыклаў з іх удзелам.

Напрыклад, 17 чэрвеня ў 4 гадзіны ночы супрацоўнікамі міліцыі затрыманы пяць вучняў 5-8 класаў сярэдніх школ № 77 і № 92 Заводскага раёна, якія "пажывіліся" ў кіёску завода "Электрамаш" мікракалькулятарамі, электроннымі цацкамі і тэлефонным апаратам. На тыдзень раней каля аднаго з дамоў па вуліцы Мірашнічэнкі затрыманы 17-гадовы ўгоншчык.

— Куды ж глядзіць міліцыя?

— Міліцыя па-ранейшаму актыўна выкарыстоўвае прынятае Мінгарвыканкамам у канцы мінулага года рашэнне, якое забараняе знаходжанне непаўналетніх без суправаджэння бацькоў з 23 да 6 гадзін раніцы на вуліцах і ў грамадскіх месцах. Яно, дарэчы, прадугледжвае штраф да 100 рублёў. Але, пагадзіцеся, нельга ж бацькам спакойна спаць у той час, калі іх уласнае дзіця невядома дзе і з кім бавіць час у вялізным начным горадзе, дзе тоіцца столькі спакус і небяспекі.

Не адзін падлетак ужо стаў ахвярай грабяжу, насілля, няшчаснага выпадку.

Напярэдадні канікулаў другакласнік 42-й мінскай школы падпаліў кінутую бочку з-пад фарбы. Вынік — апёкі значнай ступені. А вучань шостага класа 181-й школы вырашыў паспрабаваць сябе ў якасці выпрабавальніка ўзрыўнога прыстасавання. Вынік — раненне, бальніца.

Якое лета для дзяцей без ласкавых хваль вадаёмаў і рэк? Жудасна, але і тут не абыходзіцца без здарэнняў. 24 чэрвеня ў Свіслачы знайшлі цела шасцігадовай дзяўчынкі, якая патанула. У гэты ж дзень у вадаёме каля вуліцы Харкаўскай у час плавання загінуў адзінаццацігадовы школьнік.

Заклікаю ўсіх дарослых, і ў першую чаргу бацькоў, педагогаў не праходзіць абыякава міма дзяцей, якія гуляюць у дварах, пад'ездах, лесапарках. Звернем увагу на іх заняткі. Ці не могуць яны скончыцца трагедыяй? Дадзім неабходную параду, засцеражом ад бяды. Наш абавязак — навучыць дзяцей быць уважлівымі, асцярожнымі, асабліва пры наведванні незнаёмых месцаў і кантактах з незнаёмымі асобамі.

У бюро дзяжурыў П. Сіманаў


**ВНИМАНИЮ БИЗНЕСМЕНОВ, ПОЛИТИКОВ, КООПЕРАТОРОВ, ДЕЛОВЫХ ЛЮДЕЙ!**

ВАШИМ НАДЕЖНЫМ ПОМОЩНИКОМ БУДЕТ ТЕЛЕФОННЫЙ СПРАВОЧНИК ФИРМЫ "КРОСС".

Вы получите информацию о заводах, предприятиях, учреждениях, ассоциациях г.Минска, а также телефоны министерств, ведомств, исполкомов.



**Стоимость справочника 100 рублей.**

Продажа ведется по наличному и безналичному расчету.

*Заявки по тел.: 33-98-29, 33-34-90, 77-11-54, 78-14-13.*

# ОРШАНСКОЕ ПРОФЕССИОНАЛЬНО-ТЕХНИЧЕСКОЕ УЧИЛИЩЕ № 39 ПЕРЕРАБАТЫВАЮЩЕЙ ПРОМЫШЛЕННОСТИ

## ПРИГЛАШАЕТ НА УЧЕБУ ЮНОШЕЙ И ДЕВУШЕК НА 1992-93 УЧЕБНЫЙ ГОД

**Училище готовит квалифицированных рабочих дляпредприятий мясной и молочной промы шленности**

**С образованием 9 классов (срок обучения 3 года).**

**Девушек по специальностям:** *изготовитель мясных полуфабрикатов, жиловщик мяса и субпродуктов; формовщик колбасных изделий, изготовитель натуральной колбасной оболочки; мастер цельномолочной и кисломолочной продукции.*

**Юношей по специальности** *машинист холодильных установок, обвальщик мяса, жиловщик мяса, засольщик мяса.*

*Выпускникам выдается диплом об окончании училища и получении среднего образования.*

**С образованием 11 классов (срок обучения 1 год).**

**Девушек по специальности** *формовщик колбасных изделий, оператор автомата по производству вареных колбас.*



Прием в училище без вступительных экзаменов.

Принятые на базе 9 классов находятся на полном государственном обеспечении (бесплатное питание, обмундирование, спецодежда, стипендия), на базе 11 классов — обеспечиваются стипендией и спецодеждой.

Во время производственной практики учащимся выплачивается дополнительно 75 процентов от заработанной суммы.

Материальная база училища способствует всестороннему развитию молодежи в свободное от учебы время: при подростковом клубе постоянно работают кружки художественной самодеятельности различных жанров, а также спортивные секции.

Успешно занимающимся предоставляется возможность обучаться в автошколе ДОСААФ.

Распределение выпускников осуществляется, как правило, ближе к месту жительства.

Нуждающимся предоставляется общежитие.

Для поступления в училище необходимы следующие документы:

- *заявление на имя директора с указанием избранной специальности,*
- *документ об образовании, справка о профилактических прививках,*
- *медицинская справка (форма № 286 и № 25-ю),*
- *справка с места жительства,*
- *6 фотокарточек (3х4 см).*
- *Свидетельство о рождении или паспорт предъявляются лично.*

Начало занятий – 1 сентября.

*Адрес: 211030, г.Орша, ул. 2-я Шкловская, 2. ПТУ № 39.*

*Тел.: 3-07-38, 3-06-35. Проезд автобусом № 5.*

**ДИРЕКЦИЯ.**

# ЧЭРЫКАЎСКАЕ ПРАФЕСІЯНАЛЬНА-ТЭХНІЧНАЕ ВУЧЫЛІШЧА № 130 КУЛІНАРЫІ

## аб'яўляе прыём навучэнцаў на 1992/93 навучальны год па спецыяльнасцях:

*Повар дзіцячага харчавання, повар III-IV разрадаў.*

Тэрмін навучання: з адукацыяй 11 класаў — 1,5 года; з адукацыяй 9 класау — 1 год 8,5 месяца;

*кандытар, повар дзіцячага харчавання, прадавец харчовых тавараў (з уменнем гандляваць нехарчовымі таварамі)* — тэрмін навучання 1 год на базе 11 класаў.



Прымаюцца грамадзяне СНД. Стыпендыя — 500 рублёў у месяц, выдатнікам вучобы — павышаная. Навучэнцы бясплатна забяспечваюцца інтэрнатам і харчаваннем. Летнюю вытворчую практыку навучэнцы праходзяць у дзіцячых здраўніцах Чарнаморскага ўзбярэжжа Краснадарскага краю, атрымліваюць 75 працэнтаў ад заробленай сумы. Час навучання залічваецца ў стаж работы. Закончыўшыя вучылішча з адзнакай маюць ільготы пры паступленні ў тэхнікум і вышэйшыя навучальныя ўстановы па спецыяльнасці.

Заявы на імя дырэктара прымаюцца да 20 жніўня 1992 года, патрэбны таксама наступныя дакументы:

Пачатак занняткаў – 1 верасня 1992 года.

1. Дакумент аб адукацыі.
2. Шэсць фотакартак (размерам 3х4 см).
3. Медыцынская даведка (форма № 086 з указаннем прышчэпак).
4. Даведка з месца жыхарства з указаннем саставу сям'і.
5. Характарыстыка.

Пасведчанне аб нараджэнні ці пашпарт прад'яўляюцца асабіста.

*Адрас вучылішча: 213530, Магілёўская вобласць, г.Чэрыкаў, вул.Валадарскага, 35, ПТВ № 130 кулінарыі. Тэлефоны: 2-15-69, 2-16-69, 2-10-86.*

**Адміністрацыя.**

Да ўвагі беларускіх прадпрымальнікаў і дзелавых людзей!

Рэдакцыя газеты "Чырвоная змена" прымае заказы на змяшчэнне рэкламных аб'яў. Кошт — у 10 разоў ніжэйшы, чым у іншых выданнях. У вас ёсць шанц звярнуцца да будучага пакалення, да ўсіх свядомых беларусаў!

*Тэлефоны для даведак: (8-0172) 32-50-01, 32-13-54.*

*Факс: (8-0172) 32-02-63.*

Да ўвагі беларускіх прадпрымальнікаў і дзелавых людзей!

## "НІВОДНАГА ПЫТАННЯ СА ШПІЛЬКАЙ"

не было зададзена беларускаму прэм'еру пад час "прамой лініі", праведзенай у рэдакцыі ўрадавай газеты "Советская Белоруссия". Такім было ўласнае сведчанне спадара Кебіча і прагучала яно якраз пасля тэлефонных перамоваў Вячаслава Францавіча на сустрэчы з рэдактарамі рэспубліканскіх газет і часопісаў. Найбольш актыўна тэлефанавалі, як выявілася, пенсіянеры, асабліва былыя ваеннаслужачыя з нагоды малой пенсіі. За імі рушылі прадстаўнікі рускамоўнага насельніцтва рэспублікі, абураныя "асобамі", якія дэстабілізуюць, на іх думку, становішча ў рэспубліцы і да якіх яны адносяць, да прыкладу, Зянона Пазьняка. Настойліва паўтараліся званкі ад ахвяраў Чарнобыля з так і нявырашанымі жыллёва-бытавымі праблемамі. І ўрэшце на апошнім месцы Вячаслаў Францавіч назваў заклапочаных сваімі непазбыўнымі цяжкасцямі маці-адзіночак.

"Мы клапаціліся і будзем клапаціцца пра друк", — запэўніў шаноўны госць рэдактарскую грамаду. Апошняя, дарэчы, даўно ўжо страціла вертыкальную паставу і ходзіць з сагнутай спінай і працягнутай рукой па ясна-вяльможных кабінетах. Урэшце нядаўняе павышэнне кошту паперы, экспедзіравання і г.д., і як вынік — падпісной цаны, насоўваецца страшэнным дзевятым валам, здольным вынішчыць літаральна ўсе выданні на сваім шляху. Асабліва гэта тычыцца беларускамоўнай перыёдыкі, якая і без таго занядбаная шматгадовай дэнацыяналізаванай палітыкай. Зрэшты Вячаслаў Францавіч кемліва ўзгадаў: "Калі я паведаміў паўсюль, што ў рэспубліцы адшукалі радовішча золата, усе адразу спыталіся — дзе яно?". Гэтаксама спадар Кебіч сказаў, што ён ведае, дзе хаваецца паратунак для рэспубліканскай прэсы, але адкрые гэты сакрэт не прылюдна, а кожнаму рэдактару паасобку. Праўда, адна з панацэй усё ж была названая — крэдыты, выдаваемыя не Нацыянальным банкам рэспублікі, а камерцыйным банкам "Беларусь", які пазычае грошы пад нізкія працэнты. Але туды, відаць, трэба раіць звяртацца падпісчыкам, а не рэдактарам, бо высокі кошт падпіскі хутчэй закране інтарэсы менавіта першых.

**А.АГІБАЛАВА.**

*Правінцыяльная хроніка*

## "Каменданцкая гадзіна" для ... дзяцей

На сесіі райсавета Столінскага раёна прынята рашэнне аб увядзенні ў раёне "каменданцкай гадзіны" для дзяцей.

З просьбай пракаменціраваць гэты факт наш карэспандэнт звярнуўся да Паўла Фёдаравіча Пашкевіча, намесніка старшыні Столінскага райсавета, які паведаміў, што такія меры ўводзіліся і раней (для таго, каб прадухіліць злачыннасць). Сесія ж райсавета толькі аднавіла іх. Вырашана, што знаходжанне непаўналетніх на вуліцы будзе забаронена пасля 23.00. Праўда, калі гэтая "каменданцкая гадзіна" заканчваецца, невядома: у гэтым напрамку сесія не вырашыла нічога.

Але дзеці ёсць дзеці. Аматары выйсці ўначы на шпацыр засталіся. З іх бацькамі праваахоўныя органы праводзяць выхаваўчую работу. А калі дзіця вельмі "буйнае" і яго начная дзейнасць не можа абысціся без парушэнняў парадку, то тады, як вырашана на сесіі, міліцыя будзе "біць па кішэнях бацькоў". Ну, а тыя, у сваю чаргу, па мяккіх месцах сваіх непаседлівых нашчадкаў.

## ГІСТОРЫЯ – ГЭТА МЫ

Музею трэцяй Мар'інагорскай сярэдняй школы хутка трыццаць тры.

Ужо дзевяць год існуе тут добрая традыцыя — на выпускным вечары юнакам і дзяўчатам уручаюцца памятныя прызы за актыўную пошукавую работу і паспяховую здачу экзаменаў.

Сёлета памятныя прызы таксама атрымалі 11 выпускнікоў. Была адзначана не толькі добрая вучоба, але і лепшы адказ на экзамене па гісторыі, лепшае сачыненне, лепшая ўласная лекцыя.

Няблага б і іншым школам павучыцца ў наш багаты на рэвалюцыі час так захоўваць традыцыі.

**В.Арлоў.**

## Дэмантаж "правадыроў" адкладваецца

У апошні час усё часцей становяцца вядомымі факты разбурэння і дэмантажу помнікаў, бюстаў і да т.п. нашых былых "правадыроў". А як абстаяць справы з гэтым у Мінску?

Адказвае Анатоль Іосіфавіч Іўчын, намеснік старшыні прэзідыума гарадскога Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры: "Наша таварыства займаецца, як вынікае з назвы, не разбурэннем, а аховай такіх і да іх падобных помнікаў. Але калі ўрадам будзе прынята пастанова аб дэмантажы "правадыроў", то мы нічога супраць мець не будзем. Адно магу сказаць: гістарычную экспертызу гэтай справы наша таварыства яшчэ правядзе. Але пакуль што мы нічога па гэтаму пытанню не чулі".

Як паведамілі ва ўпраўленні культуры пры Савеце Міністраў, згодна з пастановай Саўміна, усе помнікі (у тым ліку і тыя, пра якія ідзе гаворка) ахоўваюцца дзяржавай. І дэманціраваць іх можна будзе толькі тады, калі ўсё той жа Саўмін прыме такую пастанову.

Так што, хоць ісціна аб неўміручасці партыі ўжо загінула, тыя, хто навязаў нам яе, жывуць (і не толькі ў нашых галовах, але і на вуліцах)...

## "Шыла" – на "мыла"?

Пасля ўвядзення ў Беларусі разліковых білетаў перад многімі людзьмі паўстала праблема іх абмену на расійскія рублі (напрыклад, пры выездзе жыхароў Беларусі ў Расію).

У Нацыянальным банку РБ паведамілі, што з 1 ліпеня ўсе банкі на тэрыторыі Беларусі выконваюць аперацыі па абмену разліковых білетаў на рублі. Абмен адбываецца ў суадносінах адзін да дзесяці (інакш кажучы, за аднаго "зайца" вы атрымаеце дзесяць "драўляных" з утрыманнем камісійнага збору ў памеры да аднаго працэнта. Абмен сумы, якая перавышае 5 тысяч рублёў, робіцца камерцыйнымі банкамі па ўзгадненню з галоўнымі ўпраўленнямі Нацыянальнага банка.

Канешне, добра, што нарэшце можна без перашкод памяняць беларускія грошы на рублі. Але за што плаціць камісійны збор? І чаму гэта павінен рабіць звычайны спажывец, а не ўрад, які прыдумаў увесь гэты "звярынец"?

## Стоп-факт

## "Зайцы" растуць?

На Украіне ўведзены ў абарот шматразовыя купоны вартасцю 200, 500, 1000 рублёў. У нас на Беларусі, як вядома, сітуацыя з грашыма больш заблытаная: паралельна з беларускімі грашыма ходзяць усім знаёмыя савецкія рублі. Як паведамілі ва Упраўленні арганізацыі грашовага абароту рэспублікі, вядзецца распрацоўка разліковых білетаў Нацыянальнага банка Беларусі вартасцю 200 і 500 рублёў. Што датычыць пытання аб тым, як доўга ў нас будзе грашовае "двоўладдзе", то нам адказалі, што гэта, напэўна, будзе залежаць ад таго, як пакажуць сябе іншыя дзяржавы "рублёвай зоны". Пакуль жа няма яшчэ поўнай замены "драўляным".

## Уся ўлада – не ўраду...

Напрыканцы чэрвеня ў Празе адбыўся Рэгіянальны семінар няўрадавых арганізацый Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. У семінары бралі ўдзел прадстаўнікі 30 няўрадавых арганізацый з Чэхаславакіі, Венгрыі і Польшчы. Асноўныя мэты семінара – далейшая дэмакратызацыя грамадства, выхаванне эканамічнага мыслення і пашырэння супрацоўніцтва паміж няўрадавымі арганізацыямі розных краін. Беларусь на семінары прадстаўляў дабрачынны фонд "Дзецям Чарнобыля". Удзельнікамі семінара было прынята рашэнне аб актыўным супрацоўніцтве з гэтым фондам з мэтаю пашырэння дапамогі ахвярам чарнобыльскай катастрофы.

**Зм.ЛУКАШУК.**

## Ці ёсць у вас план?

Хрысціянска-дэмакратычны Саюз Беларусі прапануе свой план пабудовы дэмакратыі ў новай "Беларускай народнай рэспубліцы". З гэтай нагоды ён выступіў з заявай, якая складаецца з 14 пунктаў. Вось некаторыя з іх: свабодны ўезд і выезд без усялякіх абмежаванняў, адкрытыя граніцы, роўныя правы чалавека, пераход да палітычнага плюралізму, роспуск КДБ, МУС, пракуратуры, судоў, прававая і судовая рэформы, правядзенне перавыбараў на аснове шматпартыйнасці, адмаўленне ад усеагульнай воінскай павіннасці і перавод арміі на кадравую, наёмную сістэму.

## "А як маеш грошы, дык і сам харошы..."

Для абітурыентаў настае нялёгкая пара — уступныя экзамены. Любая вучэбная ўстанова раскрые для вас свае дзверы, калі ў вас добрыя веды, калі вы ўпэўнены ў сваіх сілах і... калі маеце тугі кашалёк.

Менавіта такім чынам можна стаць студэнтам, напрыклад, у Гродзенскім мединстытуце. З просьбай пракаменціраваць гэты факт наш карэспандэнт звярнуўся да Генрыха Іванавіча Забароўскага, сакратара прыёмнай камісіі інстытута. Ён паведаміў, што, згодна з пастановай Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь, набор у гэту ўстанову на 1992/93 навучальны год скарочаны ў два разы, з 600 да 300 чалавек. А для свабоднага конкурсу і ўвогуле застаецца толькі палова, таму што каля 150 месцаў адведзена для абітурыентаў з "забруджаных" тэрыторый. Абітурыенты, якія не прайшлі па конкурсу, змогуць вучыцца, калі заплацяць... 95 тысяч у год. Лічба вялікая нават пры сённяшніх цэнах, але і яна не страхуе студэнта ад выключэння, калі той не справіцца з праграмай.

**Франц ЛЯВІЦКІ.**

## "Сюрпрызы" гандлю

Гандаль наш заўсёды славіўся сваімі непрадказальнымі "навінкамі" ў сферы абслугоўвання. Чарговы "пачын" вынайшлі ў камерцыйным цэнтры "Кірмаш" на праспекце "Праўды" ў Мінску. Цяпер тутэйшыя наведвальнікі, якія пажадаюць прымераць абноўку, вымушаны ўносіць залог – суму кошту пакупкі. Працаўнікоў прылаўка, канешне, у нечым можна зразумець: у апошні час рэзка павялічылася колькасць крадзяжоў з крам. Ды толькі ці папраўляць яны свае справы такім чынам: "навінка", пэўна ж, не спадабаецца тым нешматлікім пакупнікам, якія яшчэ захавалі жаданне нешта набываць у дзяржаўных магазінах.

**П.СКАРАМУШ.**

Вядучы інфармацыйнай паласы Франц ЛЯВІЦКІ.
Тэл. 32-13-04.

## Нацыянальны архіў

## НІКОЛІ НЕ ПОЗНА

2-га ліпеня ў тэатры імя Я.Купалы адбылася вечарына, прысвечаная 110-годдзю з дня нараджэння песняра беларускага народа.

Вечар адкрыў Ніл Гілевіч, які ў сваёй прамове закрануў набалелыя пытанні заняпаду матчынай мовы, нацыянальнай культуры. Ініцыятар вечарыны Яўген Вайтовіч, міністр культуры Беларусі, выступіў з яшчэ адной прапановай: выдзеліць урадавыя сродкі для таго, каб надрукаваць мільённымі тыражамі кнігі Купалы і бясплатна раздаць кожнаму беларусу.

Напрыканцы вечарыны былі паказаны славутыя "Тутэйшыя", п'еса, якая ў свой час апынулася за рамкамі гісторыі нацыянальнай культуры і была фактычна забаронена.

А 4-га ліпеня свята працягвалася ў Вязынцы. Мноства людзей наведала мястэчка, дзе нарадзіўся паэт.

Тэму нацыянальнай годнасці беларусаў узняў у сваім слове паэт Сяргей Законнікаў: калі мы страцім тое, што набылі на працягу Адраджэння, адзначыў ён, тады мы наогул страчаная нацыя.

У свяце таксама бралі ўдзел В.Зуёнак, Г.Каржанеўская, Ю.Свірка, Л.Дранько-Майсюк, а таксама сябры маладзёжнага літаратурнага аб'яднання "Праменьчык".

І няхай нехта сёлета ўпершыню пачуў вершы Купалы: "людзьмі звацца" ж ніколі не позна.

**Дзіяна Лаўрэнчык**

## ЧАСОПІС ДЛЯ БЕЛАРУСАЎ

Нядаўна згодна з рашэннем урада Беларусі быў створаны часопіс "Беларуская мінуўшчына". Яго заснавальнікі — Галоўны архіў РБ, Беларускі філіял творчага аб'яднання Міжнароднага фонду міласэрнасці і здароўя і Беларускі фонд славянскай пісьменнасці і славянскіх культур. Паводле слоў галоўнага рэдактара часопіса, доктара гістарычных навук, Мікалая Васільевіча Кузняцова, часопіс, які мяркуецца выдаваць раз у квартал, будзе мець гісторыка-архіўны накірунак. На яго старонках будуць асвятляцца пытанні гісторыі ад старажытных і да сённяшніх дзён. Будуць закрануты і тэмы міласэрнасці, рэлігійныя тэмы. Асноўнымі аўтарамі часопіса стануць краязнаўцы, гісторыкі, работнікі архіваў, археолагі, выкладчыкі гісторыі. У прыватнасці, увазе чытачоў будуць прадстаўлены работы такіх вядомых у рэспубліцы гісторыкаў, як В.А. Чамярыцкі, М.І. Ермаловіч, М.Ф. Піліпенка і інш. На старонках "Беларускай мінуўшчыны" будуць друкавацца вытрымкі з архіваў, летапісаў і іншых першакрыніц. Да канца гэтага года плануецца выхад у свет двух першых нумароў часопіса аб'ёмам 8-9 аркушаў. Кошт, праўда, крыху "кусаецца" — 15 рублёў за нумар. Як зазначыў М.В. Кузняцоў, такая цана была вызначана, зыходзячы з таго, што выданне аднаго нумара часопіса тыражом 10-15 тыс. каштуе 140 тыс. рублёў. Трэба дадаць пры гэтым, што ад дзяржавы часопіс не атрымлівае ні капейкі, таму пачынаць у такіх умовах, канешне, вельмі цяжка. Дапамагае ж хіба толькі тое, што часопіс атрымаў яшчэ правы на выданне гістарычнай і мастацкай літаратуры. Гэта, безумоўна, павінна дапамагчы ўмацаваць эканамічны стан новага выдання.

**Сяргей Вішнеўскі.**

## НОВАЯ ЦАРКВА

У Мінску пачала богаслужэнні новая Хрысціянская царква духу святога.

Нягледзячы на тое, што царква пазбаўлена памяшкання і служэнні праводзяцца ў "паўпадпольных" умовах, у яе з'явіліся ўжо першыя прыхільнікі.

# КУР'ЕР ТЫДНЯ

*Міхаіл Максімавіч ГЛЕБАЎ, старшыня Беларускага таварыства аўтамотааматараў:*

– Наша таварыства было створана яшчэ ў 1976 годзе. Асноўная мэта яго – дысцыплінаваць рух на дарогах, рыхтаваць вадзіцеляў. У падпарадкаванні таварыства 7 аўташкол у абласных цэнтрах і больш за 40 філіялаў гэтых школ, матэрыяльнае забеспячэнне якіх, на жаль, усё больш пагаршаецца. Раней мы набывалі па 35-40 аўтамашын у год. Цяпер жа, калі дзяржаўная цана легкавога аўтамабіля вырасла да 300 тысяч і больш, добра, калі здолеем набыць 10 аўтамабіляў. Таварыства, як і ўсе арганізацыі, абкладзена вар'яцкімі падаткамі, вялікая плата за арэнду і нават нашы 5 мільёнаў прыбытку за 5 месяцаў гэтага года нас не выратуюць. Датацый мы не атрымліваем і платных стаянак і не можам выплачваць сваім работнікам, якія працуюць у райцэнтрах, нават мінімальны заробак. Выратоўвае хіба толькі тое, што ў нас працуюць у асноўным пенсіянеры, былыя вайскоўцы.

Што датычыць колькасці членаў таварыства, то гэтая лічба – 160 тысяч. Ім у першую чаргу прадастаўляецца месца на платных стаянках, аказваецца дапамога на пунктах тэхнічнага абслугоўвання і рамонту. Таварыства займаецца распаўсюджваннем вядомых "лімітак" на бензін па г.Мінску, а таксама прафілактыкай дарожна-транспартнымі здарэннямі. Дарэчы, з 8-мі тысяч здарэнняў на дарогах у мінулым годзе толькі 7 на сумленні членаў таварыства.

*Барыс Зіноўевіч КАПЫСКІ, галоўны спецыяліст упраўлення вышэйшай школы пры Міністэрстве адукацыі РБ:*

– На сённяшні дзень, калі з Дзяржбюджэта на адукацыю ў рэспубліцы выдзяляецца толькі 10 працэнтаў нацыянальнага прыбытку, ВНУ вымушаны шукаць нейкія дадатковыя сродкі да існавання, бо падрыхтоўка аднаго толькі спецыяліста з вышэйшай адукацыяй каштуе ад 15 да 30 тысяч рублёў у год. Таму навучанне на завочных аддзяленнях ВНУ, асабліва ў галіне прамысловасці, будзе праводзіцца на аснове дамоўленасцей з прадпрыемствамі. Падобная сітуацыя склалася і з вячэрнімі аддзяленнямі, прыём на якія будзе арыентавацца на неабходную колькасць спецыялістаў у той ці іншай галіне. Магу сказаць толькі, што павялічыцца набор на спецыяльнасць "беларуская мова і літаратура". Што датычыць пераходу навучання ў ВНУ на беларускую мову, то гэты працэс пачаўся ўжо. Як вядома, ва ўсіх без выключэння ВНУ ўведзены абавязковы экзамен па беларускай мове і літаратуры, у педінстытутах створаны беларускія патокі настаўніцкіх кадраў.

Але з 34 вышэйшых навучальных устаноў, што дзейнічаюць у рэспубліцы, толькі 19 падпарадкоўваюцца нам, таму ў такіх інстытутах, як медыцынскія, Гомелькі кааператыўны, да выкладання беларускай мовы ставяцца па-свойму. Гэтыя ВНУ ў свой час падпарадкоўваліся Маскве, адпаведна і значная частка выкладчыкаў прыехала сюды працаваць з Расіі.

Падобна на тое, што спіс ВНУ на Беларусі хутка павялічыцца. Зараз у нас па рэгістрацыі разглядаюцца дзве заяўкі: ад Беларускага інстытута правазнаўства пры Саюзе юрыстаў і ад інстытута кіравання пры Саюзе прадпрымальнікаў "Форум". Пакуль жа ёсць толькі адна зарэгістраваная намі не дзяржаўная ВНУ – гэта інстытут сучасных ведаў, на студэнтаў якога распаўсюджваюцца ўсе льготы, а інстытут, у сваю чаргу, адказвае за якасць падрыхтоўкі спецыялістаў.

*Максім ТАНК, паэт:*

– Зараз, калі ўсё мяняецца, усё ламаецца, да ўлады рвуцца людзі, якім, акрамя гэтай улады, нічога больш не патрэбна. Я ўсіх дзеячаў, што зараз падымаюць шчыты, добра ведаю. Кожны з іх на свой капыл крамсае, рэжа, ірве гісторыю. Замоўчваецца тое, што нявыгадна. І нібы папугай на шарманцы, кожны цягне на свет тое, што патрэбна яму. Гісторыя стала нейкай анучай, аб якую выціраюць ногі, пакідаюць на ёй сваю гразь, каб далей ісці "чысценькімі".

Нельга, канешне, не згадзіцца з тым, што гісторыя яшчэ будзе пераглядацца, пераацэньвацца. Але ж не да поўнага самапрыніжэння.

Часцей і часцей бачу, што ў людзей застаецца ўсё менш святога, культурнага. Такія выданні, як "Полымя", "Маладосць", "ЛіМ", – пад пагрозай закрыцця. Маўляў, няма паперы. А, між тым, у пераходах, у камерцыйных кіёсках паліцы забіты парнаграфіяй. Адным словам, у нашай гісторыі такой засухі на беларускую літаратуру яшчэ ніколі не было. Сцяг мы свой адваявалі, "Пагоню" – таксама. А па чым наша "Пагоня" будзе "скакаць" – невядома.

# ЛЕТА! АХ, ЛЕТА...

ШАЙБУ!!!
КЛЮЕ???
-НАПРАСНО СТАРУШКА ЖДЁТ СЫНА ДОМОЙ...
ЛЫЖНЮ!!!
-А ЗАРАЗ АДЗІНОЧНАЕ КАТАННЕ — МУЖЧЫНЫ

## КІНААФІША

### "ФУТБАЛІСТ"

...Трэнер па футболу Алег Нораў, даведаўшыся пра тое, што вынікі многіх матчаў бываюць "куплены" спартыўнай мафіяй, вырашае дакапацца да ісціны і знайсці яе босаў. Пасля недвухсэнсавага намёку пра пагрозу для ягонага жыцця Нораў набывае на паўднёвым базары зброю... Так пачынаецца новы мастацкі фільм "Футбаліст" ("Масфільм"). Гэтая вострасюжэтная стужка А.Гордана — спроба адлюстраваць тайныя бакі спорту.



Галоўныя ролі ў фільме выконваюць Валянцін Гафт, Арыстарх Ліванаў, Яўген Лазараў, Барыс Хімічаў.

### "ФІРМА ПРЫГОД"

Так называецца новая каляровая мастацкая кінастужка, створаная сумесна Міжнародным камерцыйным таварыствам "МКС Плюс" і акцыянернай вытворча-камерцыйнай кінафірмай "Свет". У аснову сцэнарыя пакладзена аднайменная аповесць Паўла Баграка.

Камісар Гард і інспектар Таратура даследуюць справу пра забойства антыквара Піколі. Гэтае злачынства было адным са шматлікіх у шэрагу загадкавых знікненняў і забойстваў. Гард і Таратура ўпэўнены, што гэта вынік вайны мафіёзных груповак. Іншай думкі прытрымліваецца журналіст Чэстэр. Ён лічыць, што ў тым, што адбываецца, вінаватая "Фірма прыгод", арганізаваная адміралам Доранам. Каб даказаць гэта камісару і інспектару, Чэстэр набывае сабе смяротную прыгоду...

У ролі камісара Гарда выступае акцёр Анатоль Васільеў.

### "АФЕРЫСТЫ"

Гэтую новую каляровую эксцэнтрычную камедыю стварыла студыя "Кінатаварыства на Таганцы".

У аснове карціны — прыгоды трох няўдачлівых сяброў.

Яны наведаюць гасцінічны "люкс", адкуль ім прыйдзецца ўцякаць з-за павышанай увагі да "сталічных майстроў пэндзля" з боку паклоннікаў, дырэкцыі і органаў міліцыі, будуць парыцца ў рускай лазні, паспытаюць рэстаранных далікатэсаў і чыстай вясковай гарэлкі. Яны прыкінуцца мастацтвазнаўцамі, мастакамі, артыстамі, лектарамі і нават... святымі. У фільме будуць пагоні, крадзяжы, шмат трукаў і перабудоўчай сімволікі.

Карціна пастаўлена вядомым акцёрам і рэжысёрам Усеваладам Шылоўскім. У стужцы, акрамя яго, зняліся першакласныя акцёры Станіслаў Садальскі і Мамука Кікалейшвілі.

Дзяжурны рэдактар Н.СТРАЛКОВА. Мастацкае афармленне нумара В. ДУБОВІКА

ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА

Заснавальнік: ЦК ЛКСМБ
Выдавец: газетна-выдавецкая фірма "Белая Русь"
Газета ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.
АДРАС рэдакцыі: 220041, г.Мінск, праспект Скарыны, 77.
ТЭЛЕФОНЫ: 32-13-54, 32-50-01.

Газета набрана і зверстана ў наборна-выдавецкім бюро "ЧЗ".
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", г. Мінск.
Індэкс 63906. Тыраж 17 000.

Галоўны рэдактар Уладзімір БЕЛЬСКІ.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ: Алена АГІБАЛАВА, Сяргей БАЛЦЭВІЧ (адказны сакратар), Валерый ВАРАНЕЦКІ, Валерый ІВАНОЎ, Алег КАМІНСКІ (першы нам. гал. рэдактара), Віктар ЛЮКОВІЧ, Мікалай ЛАРКОВІЧ, Алесь МАСАРЭНКА, Станіслаў НІЧЫПАРОВІЧ, Алесь ПАЛЫНСКІ, Наталля ПЛЫТКЕВІЧ, Павел СІМАНАЎ (нам. гал. рэдактара), Алег СЛУКА, Кузьма ШАПЛЫКА.

*Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзеных фактаў, цытат, эканамічных звестак, асабістых імён, геаграфічных назваў і іншай інфармацыі, а таксама за тое, каб у матэрыялах не ўтрымлівалася звестак, якія не падлягаюць адкрытай публікацыі. Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункту гледжання аўтара.*

*Рэдакцыя рукапісы не рэцэнзуе і не вяртае.*

Рэдакцыя газеты "Чырвоная змена" прымае заказы на змяшчэнне аб'яў, рэкламы. Даведкі па тэлефонах 32-12-82,32-50-01.

Зак № 28

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12